ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 16 (2542)
ПЯТНІЦА
16
красавіка 1971

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



Верш «Мая Савецкая Ўлада» чытае народны паэт Беларусі Пятрусь Броўка.



Як знак пашаны і ўдзячнасці — букецік вясновых кветак народнаму паэту рэспублікі Аркадзю Куляшову.



У зале — рабочыя і студэнты, служачыя і інтэлігенцыя сталіцы, хлебаробы Мінскага раёна...



Атрымаць аўтограф народнага пісьменніка Беларусі Кандрата Крапівы — вялікая радасць.

## ДАР ЗА ДАР

**Сустрэча пісьменнікаў з чытачамі... Яна ўзаемна радасная і хвалюючая як для літаратараў, так і для тых, каму яны адрасуюць свае творы і на справядлівы суд каго разлічваюць. Першыя прынеслі на гэтую сустрэчу плён сваіх творчых пошукаў і здзяйсненняў, другія прыйшлі на яе са шчырымі, адкрытымі сэрцамі, поўнымі любві і ўдзячнасці, прыйшлі з надзеяй зноў, у каторы раз, зведаць высокае пачуццё душэўнага ачышчэння і далучэння да вялікай таямнасці мастацтва.**

**Харошыя, чыстыя хвіліны яднання думкі і пачуцця, творцаў і чытачоў!**

**Гэтыя здымкі зроблены на літаратурным вечары, які адбыўся 8 красавіка ў Палацы культуры прафсаюзаў і якім закончыліся праведзеныя ў рэспубліцы ў гонар XXIV з'езда КПСС Дні літаратуры. Рэпартаж з гэтага вечара чытайце на восьмай старонцы.**



Аўтограф любімага пісьменніка атрыманы...





Шмат прыхільнікаў сваёй паэзіі мае і Анатоль Астрэйка.

Фота Ул. КРУКА.

З'езд лічыць, што саюзы пісьменнікаў, кінематаграфістаў, мастакоў, кампазітараў, работнікаў тэатра, архітэктараў заклíканы праяўляць штодзённую ўвагу да творчых праблем развіцця літаратуры і мастацтва, павышэння ідэйна-тэарэтычнага ўзроўню

# ПАЛІТБЮРО ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА КПСС


Л. І. БРЭЖНЕЎ. Член Палітбюро ЦК КПСС, Генеральны сакратар ЦК КПСС.


Г. І. ВОРАНАЎ. Член Палітбюро ЦК КПСС.


В. В. ГРЫШЫН. Член Палітбюро ЦК КПСС.


Ф. Д. КУЛАКОЎ. Член Палітбюро ЦК КПСС, сакратар ЦК КПСС.


Д. А. КУНАЕЎ. Член Палітбюро ЦК КПСС.


К. Т. МАЗУРАЎ. Член Палітбюро ЦК КПСС.


М. В. ПАДГОРНЫ. Член Палітбюро ЦК КПСС.


Д. С. ПАЛЯНСКІ. Член Палітбюро ЦК КПСС.


А. М. ШАЛЕПІН. Член Палітбюро ЦК КПСС.


П. Я. ШЭЛЕСТ. Член Палітбюро ЦК КПСС.


У. В. ШЧАРБІЦКІ. Член Палітбюро ЦК КПСС.


Ю. У. АНДРОПАЎ. Кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС.


П. Н. ДЗЁМІЧАЎ. Кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, сакратар ЦК КПСС.


Ш. Р. РАШЫДАЎ. Кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС,


Д. Ф. УСЦІНАЎ. Кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, сакратар ЦК КПСС.


І. В. КАПІТОНАЎ. Сакратар ЦК КПСС.


К. Ф. КАТУШАЎ. Сакратар ЦК КПСС,


Б. М. ПАНАМАРОЎ. Сакратар ЦК КПСС.

і прафесіянальнага майстэрства членаў саюзаў, выхавання высокай адказнасці ў дзеячоў літаратуры і мастацтва за сваю працу перад грамадствам, усямерна ўмацоўваць садружнасць творчых работнікаў з вытворчымі калектывамі.

(З Рэзалюцыі XXIV з'езда Камуністычнай партыі Савецкага Саюза па Справаздачным дакладзе Цэнтральнага Камітэта КПСС).


А. М. КАСЫГІН.
Член Палітбюро ЦК КПСС.


А. П. КІРЫЛЕНКА.
Член Палітбюро ЦК КПСС, сакратар ЦК КПСС.


А. Я. ПЕЛЬШЭ.
Член Палітбюро ЦК КПСС, Старшыня КПК пры ЦК КПСС.


М. А. СУСЛАЎ.
Член Палітбюро ЦК КПСС, сакратар ЦК КПСС.


П. М. МАШЭРАЎ.
Кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС.


В. П. МЖАВАНАДЗЕ.
Кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС.


М. С. САЛОМЕНЦАЎ.
Сакратар ЦК КПСС.


Г. Ф. СІЗОЎ.
Старшыня Цэнтральнай рэвізійнай камісіі КПСС.

## В. ГРАМЫКА,

заслужаны дзеяч мастацтваў БССР, старшыня праўлення Саюза мастакоў БССР.

# ВЕЛІЧНЫЯ ВЫНІКІ, ВЕЛІЧНЫЯ ЗАДАЧЫ

Мы МОЖАМ сёння сказаць, што кожнае слова, сказанае на XXIV з'ездзе КПСС, дайшло да сэрца кожнага грамадзяніна нашай краіны.

Для нашага мастацтва няма больш высокай задачы, як актыўнае служэнне перамозе той вялікай справы, якой заняты ўвесь наш савецкі народ. Справы камуністычнага будаўніцтва. Справы, якая рашуча супрацьстаіць ілжы і злобнасці старога свету — свету разбурэння.

Глядач і чытач чакае ад мастацтва нашых дзён глыбіні думкі, яркасці і шчырасці пачуцця, актыўнай пастаноўкі падказаных жыццём праблем, прыгажосці нешаблоннага мастацкага рашэння вобразаў. Хіба не пра гэта гаварыў у сваім дакладзе на XXIV з'ездзе КПСС Леанід Ільіч Брэжнеў, калі адзначыў:

«Мы за ўважлівыя адносіны да творчых пошукаў, за поўнае раскрыццё індывідуальнасці здольнасцей і талентаў, за разнастайнасць і багацце форм і стыляў, якія выпрацоўваюцца на аснове метаду сацыялістычнага рэалізму. Сіла партыйнага кіраўніцтва — ва ўменні захапіць мастака высакароднай задачай служэння народу, зрабіць яго пераканаsuccessfullyым і актыўным удзельнікам пераўтварэння грамадства на камуністычных асновах».

У гэтых, і не толькі ў гэтых, словах даклада Л. І. Брэжнева выключна ясна падкрэслена ўсё ўзрастаючая роля літаратуры і мастацтва ў фарміраванні светапогляду савецкага чалавека, яго маральных перакананняў, яго духоўнай культуры.

Вельмі зразумела ўсім нам, мастакам, пільная ўвага партыі да ідэйнага зместу твораў літаратуры і мастацтва, да іх мастацкай якасці, да іх здольнасці ідэйна і эстэтычна ўздзейнічаць на чытача і гледача.

Высокая місія служэння народу немагчыма без глыбокага ведания і разумення жыцця самога народа, яго здзяйсненняў, яго высакародных дум і спадзяванняў.

Творчыя інтарэсы і творчы лёс мастака, літаратара, акцёра неаддзельныя ад інтарэсаў і лёсу свайго народа. Хіба не ў гэтым адна з жыватворнейшых асаблівасцей нашага мастацтва сацыялістычнага рэалізму! Хіба не ў гэтай яго жыватворнай асаблівасці і тлумачэнне поспехаў нашага мастацтва, і цудоўныя перспектывы яго развіцця!

Возьмем наша беларускае савецкае выяўленчае мастацтва. Хіба яго поспехі не з'яўляюцца вынікам хуткага развіцця культуры і мастацтва нацыянальных рэспублік нашага Савецкага Саюза!

За апошняе пяцігоддзе ўсесаюзны глядач убачыў нямала цудоўных твораў майстроў выяўленчага мастацтва Расійскай Федэрацыі і Малдавіі, Украіны і Беларусі, Прыбалтыкі і Закаўказзя. Удзельная вага нашага выяўленчага мастацтва ў працэсе ўзаемапранікнення і ўзаемаўзбагачэння савецкіх нацыянальных культур — немалая. І ў гэтым — адна з найкаштоўнейшых асаблівасцей развіцця сацыялістычнай культуры, у рэчышчы якой толькі і здольнае было беларускае мастацтва набыць сапраўдную сталасць. Гэта вынік мудрай ленінскай нацыянальнай палітыкі Камуністычнай партыі.

Мы ганарымся нашымі поспехамі. Але мы не маем права ні на хвіліну забывацца на нашыя недахопы. Мы павінны ясна ўсвядоміць: кепскае веданне жыцця народа непазбежна вядзе да шэрасці твораў або да эстэцкага смакавання фармальных кампанентаў твора. Поўнае развіццё індывідуальнасцей, сапраўдная разнастайнасць форм і стыляў на аснове метаду сацыялістычнага рэалізму, пра якія гаварыў на з'ездзе Л. І. Брэжнеў, магчымы толькі пры глыбокім вывучэнні мастаком жыцця, пры яго глыбокім валоданні самым перадавым — марксісцка-ленінскім — светапоглядам, пры яго ўменьстве прымяняць тэарэтычныя веды на практыцы.

Чым больш цесная сувязь мастака з усім шматгранным жыццём савецкага народа — тым бліжэй ён да творчых дасягненняў і ўдач. Мы павінны ўлічваць гэта ва ўсіх сферах нашага творчага жыцця. Бо менавіта гэтым вызначаецца, урэшце рэшт, адказнасць кожнага з нас перад партыяй, перад народам. Адказнасць за ідэйную накіраванасць і мастацкую паўнацэннасць кожнага апавядання і п'есы, кожнага афорта і жывапіснага палатна, кожнага фільма і скульптуры.

## З. СТОМА,

народны артыст СССР.

# З ПАРТЫЯЙ, З НАРОДАМ!

З пачуццём гордасці за нашу вялікую ленінскую партыю, якая вядзе народы Савецкага Саюза ад перамогі да перамогі па шляху будаўніцтва камуністычнага грамадства, за нашу цудоўную магутную Радзіму, мы, работнікі мастацтва рэспублікі, вывучаем і абмяркоўваем матэрыялы форуму камуністаў.

З вялікім гонарам мы чытаем радкі са Справаздачнага даклада ЦК КПСС, дзе гаворыцца: «....работнікамі савецкага мастацтва за апошнія гады зроблена многае. Наш народ высока цэніць іх дасягненні, якія з'яўляюцца сур'ёзным укладам у справу выхавання камуністычнай свядомасці савецкіх людзей». І разам з тым усведамляем, што мы ў неаплатным даўгу перад народам, што не заўсёды радуем яго высокамастацкімі, ідэйна змястоўнымі творамі. Пра гэта таксама з усёй бальшавіцкай шчырасцю сказана ў дакладзе Леаніда Ільіча Брэжнева: «Часам бывае нават, што твор прысвечан добрай, актуальнай тэме, але ствараецца ўражанне, што мастак падышоў да сваёй задачы вельмі лёгка, не ўклаў у сваю працу ўсю сілу свайго таленту. Думаецца, што ўсе мы маем права чакаць ад работнікаў мастацтва большай патрабавальнасці да самых сябе і да сваіх таварышаў па прафесіі».

Гэтыя словы мы цалкам адносім да сябе. Калектыў Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы зараз звяртае сур'ёзную ўвагу на фарміраванне рэпертуару, што адпавядаў бы тым патрабаванням, якія нам прад'яўляюць партыя і народ. У калектыве ідуць чыткі новых п'ес і іх абмеркаванне. У рэпертуары купалаўскага тэатра павінны знайсці месца п'есы з вялікім зарадам сучаснай гераікі, народнасці, грамадзянскасці, патрыятызму. Гэта могуць быць гераіка-рамантычная п'еса, узоры класічнай, рускай, сусветнай і савецкай класікі. Ідзе пошук драматургіі, якая б паўней адлюстравала нашага сучасніка — рабочага, хлебароба, інтэлігента, паказала наша жыццё з яго складанымі праблемамі, жыццё, да краёў запоўненае самаадданай працай савецкіх людзей.

Калектыў тэатра імя Янкі Купалы, наша творчая моладзь, якая дастойна нясе эстафету лепшых майстроў старэйшага пакалення, зробяць усё магчымае, каб Акадэмічны тэатр быў сапраўды ўзорам высокага творчага майстэрства, вялікага артыстычнага прафесіяналізму, глыбокай маральнай чысціні і чалавечай годнасці. Гэта так патрэбна ў высокім мастацтве.

Мы не можам адставаць ад жыцця. Не маем права. Духоўнае жыццё народа непарыўна звязана з яго працоўнымі перамогамі, а яны велічныя і грандыёзныя. Місія работнікаў літаратуры і мастацтва — быць інжынерамі чалавечых душ і сродкамі мастацкіх вобразаў дапамагаць партыі выхоўваць новага чалавека — будаўніка камунізма.

## ТЫДЗЕНЬ ВЫЯЎЛЕНЧАГА МАСТАЦТВА

**СЁННЯ ў горадзе беларускіх аўтамабілебудаўнікоў Жодзіне адбудзецца ўрачыстае адкрыццё Тыдня выяўленчага мастацтва ў Беларусі.**

**У час тыдня наладжваюцца мастацкія выстаўкі ў Мінску, Жодзіне, Брэсце, калгасе «Маяк камунізма» Барысаўскага раёна.**

**Грамадскасць Мінска, студэнты, школьнікі, рабочыя ў час тыдня наведаюць творчыя майстэрні вядомых беларускіх жывапісцаў, графікаў, скульптараў, пазнаёмяцца з работай Мінскага мастацка-вытворчага камбіната.**

НАСУСТРАЧ VI ПІСЬМЕННІЦКАМУ ТВОРЧАЯ ТРЫБУНА

Але вельмі рэдка скажуць, што трэба. Таму за агляды бярэцца пакуль адзін Віктар Каваленка. За рэдкім выключэннем (скажам, апошні артыкул у «Литературной газете» — «Сверяя с временем шаг»), атрымліваецца ў яго добра і змястоўна.

Магчыма, варта таксама падумаць аб большай зацікаўленасці крытыкаў у такой калектыўнай працы. Сапраўды, чаму б гадавыя агляды, апублікаваныя ў часопісах і газетах, не перавыдаваць пасля асобнай кніжкай? Такая кніжка, дапоўненая лепшымі артыкуламі і рэцэнзіямі года, з'явілася б каштоўным дапаможнікам для прапагандыстаў літаратуры, настаўнікаў-славеснікаў, бібліятэкараў, а зборнікі за шмат гадоў — незаменнай крыніцай для даследчыка і гісторыка літаратуры.

Праўда, у нас ужо ёсць пэўны вопыт выдання такіх зборнікаў. Маю на ўвазе зборнікі «Літаратура нашых дзён» (1963 г.), які падрыхтавала секцыя крытыкі і літаратуразнаўства, і «На высокай хвалі» (1968 г.) у выданні «Народнай асветы». Нягледзячы на тое, што зборнікі прыхільна прынялі чытачы і літаратурная грамадскасць, далейшы выпуск іх прыпыніўся.

Ажывіць і палепшыць справы літаратурна-крытычнага фронту могуць толькі людзі — таленавітыя і працавітыя энтузіясты, і яны, вядома, знойдуцца, калі пашукаць, калі праявіць больш клопатаў аб выхаванні маладой змены. Між тым рады крытыкаў папаўняюцца надзвычай марудна, для іх ідэйнага і творчага росту не створаны нармальныя абставіны, заснаваныя на дабразычлівасці, цярплівасці, павазе да кожнай шчырай і праўдзівай думкі. І Саюз пісьменнікаў неяк прымірыўся з гэтым.

Вядома, выхаванне маладых крытыкаў — справа нялёгкая, намнога цяжэйшая, чым, скажам, выхаванне паэтаў і празаікаў. Аднак крытыкам менш за ўсё надаецца ўвагі.

Вельмі адбіваецца на папаўненні крытычных радоў практыка прыёму ў саюз толькі тых аўтараў, у якіх ёсць на творчым рахунку не меней адной, а то і дзвюх асобна выдадзеных кніжак. І гэта ў той час, калі крытык, які займаецца сістэматычным рэцэнзаваннем, здольны напісаць на працягу года ў лепшым выпадку два-тры артыкулы (ён жа яшчэ недзе працуе!), большая частка якіх па меры набліжэння аўтара да запаветнага зборніка непазбежна старэе. Па гэтай прычыне «крытыкамі» робяцца выключна літаратуразнаўцы, людзі, якія прайшлі праз аспірантуру і змаглі надрукаваць сваё дысертацыйнае даследаванне.

Недастаткова, на мой погляд, працуюць з маладымі крытыкамі часопісы — «Полымя», «Маладосць», «Неман». Я не ведаю, ці быў у практыцы гэтых часопісаў хоць адзін выпадак абмеркавання іх гадавой крытычнай прадукцыі сумесна з аўтарскім актывам, — абмеркаванне не дзеля формы, а з мэтай вучобы маладых прафесіянальнаму майстэрству, вызначэння канкрэтных перспектыў далейшай работы. А гэта ж толькі адна з магчымых форм творчага кантакту паміж маладымі і сталымі крытыкамі.

Зусім не пашкодзіла б таксама ўстанаўленне заахвочвальных прэмій за лепшыя артыкулы і рэцэнзіі.

Адным словам, падумаць ёсць пра што. Нявырашаных набалелых пытанняў — процьма, і было б нядрэнна, калі б яны сталі прадметам гаворкі на пісьменніцкім з'ездзе.



А. МАЛЬДЗІС

# МАЦАВАЦЬ «ВЯСЁЛКАВЫЯ МАСТЫ» ДРУЖБЫ

НЕЛЬГА ўявіць сабе нармальнага чалавека, які жыў бы ў поўнай ізаляцыі ад іншых людзей — без ніякіх кантактаў, без абмену думкамі, без узбагачэння чужым вопытам. Тое ж — і літаратура. Як кожны чалавек з'яўляецца членам грамадства, так і нацыянальная літаратура ўваходзіць у садружнасць родных літаратур (у беларускім выпадку — савецкіх, славянскіх), а разам з імі — у сусветную літаратуру. Кожная нацыянальная літаратура ўносіць свой пасільны ўклад у сусветную, дзякуючы бесперапыннаму абмену мастацкімі каштоўнасцямі. Такі абмен асабліва ўзрос у наш час паскораных камунікацый, калі выдатны твор адразу ж становіцца здабыткам розных народаў і розных кантынентаў. Калі б не было ўзаемадзеяння і ўзаемаўзбагачэння, кожная літаратура была б вымушана самастойна выдумваць «порах», што запавольвала б яе развіццё і сведчыла б не так аб яе арыгінальнасці, як аб правінцыяльнай адсталасці.

Кантакты літаратур пачынаюцца з кантактаў паміж пісьменнікамі — асабістых і апасродкаваных, праз творы. У гэтым сэнсе вонкава справы выглядаюць у нас няблага. У Беларусі наладжваюцца дні, дэкады і тыдні братніх літаратур. Прыязджаюць да нас госці з-за рубяжа. У сваю чаргу беларускія пісьменнікі бываюць у самых аддаленых кутках нашай краіны — ад Находкі і Магнітагорска да Кішынёва, ад Душанбе да Рыгі, адпраўляюцца ў загранічныя ваяжы. Карысць такіх кантактаў відавочная. Але іх вынікі маглі б быць больш значныя. Неяк Максім Рыльскі жартам сказаў: «Калі я чую словы пра дружбу народаў, рука міжволі цягнецца да келіха...». Я не маю нічога супраць келіха, без яго пры сяброўскай гасціне не абысціся. Я толькі супраць таго, каб кантакты, як гэта часта бывае, зводзіліся да ўзаемных тостаў. У выніку такіх дзён, тыдняў і дэкад павінна нараджацца нешта непараўнальна большае, чым тост ці нават некалькі выпадковых перакладаў у прэсе. Павінна нараджацца паўсядзённае творчае ўзаемадзеянне. З паездкі ў братнюю рэспубліку ці краіну пісьменніку трэба вяртацца яе «паўнамоцным прадстаўніком» — такім, як Янка Брыль у дачыненні да Польшчы, Ніл Гілевіч у дачыненні да Балгарыі ці Рыгор Барадулін у дачыненні да Латвіі. А колькі яшчэ братніх рэспублік чакае ў нас такіх вось зацікаўленых пажыццёвых прадстаўнікоў?!

Найбольш дзейснай і плённай формай літаратурных узаемасувязяў з'яўляецца, вядома ж, мастацкі ўзаемапераклад. За апошнія гады нашымі перакладчыкамі зроблена многа. Але, мабыць, напярэдадні пісьменніцкага з'езда ўсё ж важней гаварыць пра тое, што яшчэ не зроблена, што трэба зрабіць у бліжэйшыя гады.

Я не буду арыгінальны, калі скажу, што мы перакладаем яшчэ мала. Пра гэта ўжо грунтоўна пісалі ў «ЛіМе» іншыя. Да сказанага імі мне хочацца дадаць толькі некалькі фактаў і меркаванняў.

У студзені гэтага года мне давялося прысутнічаць на пленуме Саюза пісьменнікаў Літвы, прысвечаным сувязям літоўскай літаратуры з літаратурамі іншых народаў. Старшыня камісіі па літаратурных сувязях паэт Юсцінас Марцінкявічус прывёў у сваім дакладзе такія лічбы. За апошняе пяцігоддзе, з 1966 па 1970 год, асноўнае літоўскае выдавецтва «Вага» выпусціла ў перакладзе на літоўскую мову 688 перакладных кніг агульным тыражом 13 мільёнаў 175 тысяч экземпляраў (г. зн. сярэднім тыражом у 19 тысяч экземпляраў). З гэтай колькасці на рускую класічную і савецкую літаратуру прыпадаюць 224 кнігі, літаратуры народаў СССР—102, сацыялістычныя краіны — 128 і астатні свет — 234 выданні. У будучым «Вага» плануе штогодна даваць чытачам каля 130 новых перакладных кніг. Адзначыўшы, што плённа развіваюцца кантакты літоўскай літаратуры з латышскай, эстонскай, украінскай, грузінскай, дакладчык сказаў, што літоўцы ў вялікім даўгу перад беларусамі — за ўвесь пасляваенны час з беларускай мовы перакладзена ўсяго каля 20 кніг. А я з горыччу падумаў, што ў яшчэ большым даўгу перад сваімі бліжэйшымі суседзямі беларусы. Хіба мы маем права на нейкую ўзаемнасць, калі за той жа час пераклалі ўдвая менш, калі за апошнія пяць гадоў не выдалі **ніводнага** перакладу з літоўскай мовы, калі да сённяшняга дня не маем на беларускай мове зборнікаў твораў Людаса Гіры і Пятраса Цвіркі, Жэмайтэ і Саламеі Нерыс (апошні, праўда, рыхтуецца). Такая ж «запазычанасць» у нас перад латышамі і эстонцамі — яны перакладаюць нас утрая больш, чым мы іх.

Не сакрэт, што на беларускую і з беларускай мовы перакладаецца далёка не заўсёды самае лепшае, сапраўды вартае. Часам паміж пасрэднасцямі дзейнічае прынцып: я перакладаю цябе, а ты мяне. У анталогіі і зборнікі па віне ўкладальнікаў трапляюць творы другарадныя, выпадковыя. Колькі гадоў назад у Вільнюсе выйшаў у перакладзе з беларускай мовы рэпертуарны зборнік «Дружба» (укладальніца С. Гурыч). Беларуская проза прадстаўлена ў ім слабенькім апавяданнем той жа С. Гурыч «Любімы горад», драматургія — пасрэднай аднаактоўкай П. Данілава. А потым, трапіўшы ў суседнюю рэспубліку, мы са здзіўленнем чуем з самадзейнай сцэны творы, пра існаванне якіх не падазравалі ў сябе на радзіме. Прынамсі, так было са мною і з мастацтвазнаўцам Л. Дробавым, калі нядаўна, на днях дружбы братніх народаў у Днепрапятроўскай вобласці, у якасці класікаў беларускай літаратуры нам паднеслі... Урэшце, справа не ў прозвішчах, а ў шкоднай тэндэнцыі, у збедненым уяўленні, якое атрымоўваюць пра беларускую літаратуру нашы суседзі.

Я разумею абмежаваныя магчымасці нашых выдавецтваў, разумею, што зусім не абавязкова перакладаць на беларускую мову кожную добрую кнігу, якая выйшла ў братняй рэспубліцы ці за рубяжом, — асабліва, калі ўжо ёсць рускі пераклад. У сілу блізкасці беларускай мовы да рускай колькасць перакладаў у нас непазбежна будзе меншай, чым, скажам, у Літве ці Эстоніі. Але тым больш востра паўстае пытанне аб крытэрыях адбору. У першую чаргу павінны перакладацца творы выдатныя, вяршыні іншых нацыянальных літаратур. З'яўленне такіх перакладаў—жыццёвая неабходнасць, бо яны дазваляюць нашым паэтам удасканальваць майстэрства, павышаюць агульны эстэтычны ўзровень беларускай літаратуры. Па-другое, складаючы планы выдання перакладной літаратуры, трэба аддаваць перавагу творам, прысвечаным Беларусі або напісаным у ёй (а такіх, асабліва ў польскай літаратуры, знойдзецца багата).

Думаецца мне, што па традыцыйнай беларускай сціпласці мы ўсё яшчэ недастаткова прапагандуем сваю літаратуру за межамі нашай рэспублікі. Прайшоў час, калі нас перакладалі дзеля этнаграфічнай цікаўнасці —маўляў, існуе і такая літаратура... Цяпер намі цікавяцца ўжо як роўнымі, на парытэтных пачатках. А для такой узаемнай «любові» нам патрэбна не толькі больш перакладаць самім, але і мець у кожнай рэспубліцы, у іншых краінах сваіх добрых сяброў, «паўнамоцных прадстаўнікоў». Ім трэба дапамагаць у выбары твораў, сістэматычна запрашаць у Беларусь дзеля вывучэння нашай мовы, культуры, побыту, як гэта робяць, скажам, літоўцы. Пакуль што такіх сяброў можна пералічыць на пальцах: колькі чалавек у Маскве, у Кіеве і Львове, у Польшчы, Альбінас Жукаўскас у Літве, Олеў Йыгі ў Эстоніі, Вацлаў Жыдліцкі ў Чэхіі, Уолтэр Мэй у Англіі, Г. і Н. Вылчавы ў Балгарыі. За апошняе пяцігоддзе нас нядрэнна перакладалі ў Польшчы (асобныя выданні Быкава, Мележа, Танка, Шамякіна), ГДР (вось-вось выйдзе двухтомная анталогія беларускага апавядання), Балгарыі. Але ўсё яшчэ мала нас ведаюць у Румыніі, Венгрыі, Югаславіі. Што ж датычыцца капіталістычнага Захаду, то мы не можам нават упэўнена сказаць, колькі там нашых сяброў і дзе, бо «Летапіс друку БССР» падае адпаведныя звесткі толькі па сацыялістычных краінах. У выніку мы не можам поўнасцю ацаніць уклад, які ўносіць беларуская літаратура ў сусветны літаратурны працэс. Не можам (па няведанні) і даць належны адпор нашым недругам, фальсіфікатарам гісторыі беларускай літаратуры (я не думаю, каб кола іх на Захадзе абмяжоўвалася аднымі беларускімі буржуазнымі нацыяналістамі). Адным словам, яшчэ слаба вядзецца дзейсная, наступальная **прапаганда** беларускай літаратуры. У гэтым сэнсе нам трэба павучыцца, скажам, у эстонцаў, якія выдалі гісторыю роднай літаратуры на англійскай мове, у азербайджанцаў, якія праз выдавецтва «Прогресс» рыхтуюць анталогію сваёй паэзіі на французскай і прозы на англійскай мовах, у літоўцаў, якія ўсё, што пішацца на Захадзе пра літоўскую літаратуру, станоўча або адмоўна ацэньваюць на старонках рэспубліканскага часопіса «Пяргале».

Не менш важна, чым устанаўліваць і мацаваць літаратурныя сувязі, з'яўляецца іх асэнсаванне і даследаванне. За апошняе пяцігоддзе ў Беларусі нямала зроблена на ніве параўнальнага літаратуразнаўства. Супрацоўнікі Інстытута літаратуры АН БССР падрыхтавалі два зборнікі, прысвечаныя ўзаемадзеянню беларускай літаратуры з літаратурамі іншых славянскіх і неславянскіх народаў,—«Садружнасць літаратур» (1968) і «Старонкі літаратурных сувязяў» (1970).

Адзначаючы першыя поспехі беларускага параўнальнага літаратуразнаўства, нельга замоўчваць тое, што па сваёй маладосці і нешматлікасці даследчыцкіх сіл яно яшчэ не справілася з шэрагам «белых плям». Недастаткова даследуюцца беларуска-рускія літаратурныя сувязі, асабліва савецкага перыяду. Амаль няма работ па тыпалогіі старажытнай беларускай літаратуры. За невялікім выключэннем(Я. Семяжон, Н. Лапідус), няма работ па сувязях беларускай літаратуры з літаратурамі несацыялістычнага Захаду.

Для далейшага ажыўлення літаратурных сувязяў, мабыць, патрэбны таксама арганізацыйныя захады. Па прыкладзе літоўцаў нам варта стварыць пры Саюзе пісьменнікаў спецыяльную камісію, якая б планавала і накіроўвала літаратурныя кантакты, прапагандавала нашы лепшыя здабыткі за межамі рэспублікі, у дапамогу перакладчыкам штогодна складала рэкамендацыйныя спісы твораў і г. д. Наспела патрэба ў прадстаўнічым семінары прапагандыстаў і перакладчыкаў нашай літаратуры на іншыя мовы. Усё гэта садзейнічала б умацаванню тых «вясёлкавых мастоў», якія збліжаюць літаратуры і народы, садзейнічаюць іх узаемнаму ўзбагачэнню.

эзія народаў свету». Цяпер,—мяне, я думаю, падтрымаюць многія, — наспела патрэба выдаваць яшчэ і серыю, скажам, «Наша спадчына» (назва ўмоўная). У нас жа не сабрана і не выдадзена да гэтага часу творчая спадчына Янкі Лучыны, Ядвігіна Ш., К. Каганца (яго п'еса «Модны шляхцюк» у савецкі час ні разу не выдавалася! Не ведаю, ці ўвойдзе яна ў «Бібліятэку беларускай драматургіі»), Лявона Гмырака, Кандрата Лейкі і многіх іншых. Няма нават больш менш поўнага аднатомніка твораў Цёткі, дзе былі б сабраны не толькі яе вершы, але і проза, артыкулы, краязнаўчыя нарысы, пераклады.

Не так далёка да стогадовага юбілею з дня нараджэння вялікіх сыноў беларускага народа Янкі Купалы і Якуба Коласа. Час бяжыць імкліва. Вельмі добра, што неўзабаве з'явяцца першыя тамы новага збору іхніх твораў. Але ці не пара рыхтавацца да акадэмічнага выдання купалаўскай і коласаўскай спадчыны? Чаму б, нарэшце, не ажыццявіць выданне верша Я. Купалы «А хто там ідзе?» у перакладзе на мовы народаў свету?

Дрэнна і няўмела прапагандуем мы здабыткі і дасягненні нашай беларускай літаратуры многанацыянальнаму ўсесаюзнаму чытачу. Незразумела, чаму ў серыі «Библиотека всемирной литературы» Я. Купалу і Я. Коласа ўціснулі ў адзін том. А дзе ж беларуская проза? Няхай бы тады беларускую прозу ў гэтай серыі прадстаўляла хаця б беларуская яркая і самабытная казка. Нешта вельмі бедна прадстаўлена наша паэзія і ў «Библиотеке поэта» (вялікай і малой серыі), нешта не сустракаў я кніг беларускіх пісьменнікаў і ў «Народной библиотеке», якая выдаецца каторы год.

**II.**

Не так даўно газета «Вячэрні Мінск» паведаміла, што ў Эстоніі адкрыўся 80-ы па ліку дзяржаўны музей. У нашай рэспубліцы толькі 39 музеяў; з іх літаратурных—4 (Літаратурны музей Янкі Купалы і яго філіял у Вязынцы, Літаратурны музей Я. Коласа і філіял у Мікалаеўшчыне). Мала? Вельмі і вельмі мала!

Па нейкай крыўднай і недаравальнай абыякавасці мы да гэтага часу не маем яшчэ музея Максіма Багдановi-

(Заканчэнне на 6-й стар.).

# ДАР ЗА ДАР

## ЗАКЛЮЧНЫ ВЕЧАР ДЗЁН ЛІТАРАТУРЫ Ў МІНСКУ

Тыдзень назад закончыў сваю работу XXIV з'езд КПСС, які вызначыў задачы партыі на новым этапе камуністычнага будаўніцтва, акрэсліў новыя далягляды імклівага і магутнага поступу нашай Радзімы. З'езду роднай партыі савецкія людзі прысвячалі свае лепшыя справы і здзяйсненні, працоўныя і творчыя поспехі. Разам з усім савецкім народам перадз'ездаўскую ўдарную вахту неслі і пісьменнікі, работнікі культуры і мастацтва.

На працягу некалькіх месяцаў дзесяткі пісьменніцкіх брыгад ездзілі па абласцях і раёнах. У калгасах і саўгасах, на заводах і фабрыках, у тэхнікумах і інстытутах адбыліся сотні літаратурных вечароў, сотні сустрэч пісьменнікаў з чытачамі.

Чытачы гарадоў і вёсак з вялікай увагай і цікавасцю слухалі жывое пісьменніцкае слова, на свае вочы ўбачылі, а то і пазнаёміліся з любімымі аўтарамі, атрымалі на памяць іх аўтографы. Усё гэта, безумоўна, паспрыяе росту іх зацікаўленасці і любві да роднай літаратуры, да роднага мастацкага слова. Пісьменнікі ж за час паездак па гарадах і раёнах бліжэй пазнаёміліся з сённяшнім воблікам сваёй рэспублікі, з жыццём і працай нашых людзей, з іх думамі і памкненнямі, вынеслі ад сустрэч са сваімі чытачамі шмат яркіх, незабыўных уражанняў, што, несумненна, паслужыць ім на карысць у далейшай творчай працы. У гэтым — галоўная вартасць і каштоўнасць праведзеных у рэспубліцы напярэдадні і ў дні з'езда партыі Дзён літаратуры.

І вось яны закончыліся,—8 красавіка ў Палацы культуры прафсаюзаў адбыўся іх заключны вечар. Прасторная зала палаца перапоўнена — на сустрэчу з любімымі пісьменнікамі сабраліся шматлікія шчырыя сябры кнігі: рабочыя і служачыя, інтэлігенцыя і студэнты Мінска, сельскія працаўнікі Мінскага раёна.

— Сустрэчы пісьменнікаў са сваімі чытачамі, працоўнымі горада і вёскі, — гаворыць, адкрываючы вечар, сакратар Мінскага абкома партыі У. Багданаў, — сталі ў нас добрай традыцыяй. Прайшлі Дні літаратуры на Брэстчыне і Віцебшчыне, Гродзеншчыне, Гомельшчыне і Магілёўшчыне. Прыемна, што Дні літаратуры ў нашай вобласці праходзяць у час работы XXIV з'езда Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

У Справаздачным дакладзе Цэнтральнага Камітэта, з якім выступіў Генеральны сакратар ЦК Леанід Ільіч Брэжнеў, у прамовах дэлегатаў дадзен глыбокі аналіз развіцця савецкай літаратуры, падкрэслена яе ўзрастаючая роля ў фарміраванні светапогляду савецкага чалавека, яго маральных перакананняў, духоўнай культуры.

У гарадах і раёнах вобласці за гэтыя дні адбылося больш 50 сустрэч, на якіх прысутнічала каля 12 тысяч чытачоў. Пісьменнікі расказалі аб поспехах, з якімі літаратары Беларусі сустрэлі XXIV з'езд партыі, падзяліліся планамі на будучае. Мы спадзяёмся, што знаёмства з вытворчымі калектывамі, іх жыццём і справамі дапаможа пісьменнікам у іх творчай працы, у стварэнні паўнакроўных вобразаў нашага сучасніка, дапаможа глыбей пранікнуць у сутнасць такіх найважнейшых сацыяльных з'яў, як навукова-тэхнічная рэвалюцыя, зблізкэнне ўзроўню жыцця горада і вёскі, раскрыць самыя глыбінныя духоўныя працэсы ў свядомасці і характары людзей. Сустрэчы з працоўнымі будуць натхняць нашых пісьменнікаў на стварэнне новых праўдзівых і высокамастацкіх твораў, вартых нашага часу.

Прадставіўшы прысутным літаратараў, якія прыйшлі ў той вечар у Палац культуры, У. Багданаў дае слова другому сакратару праўлення Саюза пісьменнікаў БССР І. Шамякіну.

— Дні літаратуры, — гаворыць І. Шамякін, — падыходзяць да канца. Яны прайшлі ва ўсіх абласцях рэспублікі. І не толькі ў рэспубліцы. Вялікая група нашых пісьменнікаў выязджала на Урал, у горад металургаў Магнітагорск, дзе яны правялі больш трыццаці літаратурных вечароў. У гарады і раёны Беларусі выязджала больш ста пісьменнікаў. Яны правялі 890 вечароў і сустрэч з працоўнымі, на якіх прысутнічала, па самых мінімальных падліках, больш ста тысяч рабочых, калгаснікаў, настаўнікаў, студэнтаў, вучняў. Гэта наш своеасаблівы рапарт з'езду роднай партыі.

Але галоўная наша праца, працягвае ён, творы. Перыяд паміж нашымі пісьменніцкімі з'ездамі дакладна супаў з восьмай пяцігодкай, аб выкананні планаў якой рапартавалі з'езду працаўнікі горада і вёскі. У нас была свая пяцігодка. Рыхтуючыся да з'езда партыі, да свайго пісьменніцкага з'езда, мы дэталёва агледзелі вынікі працы нашага літаратурнага цэха. Прадукцыя яго радуе! Словы таварыша Брэжнева: «Выклікае вялікае задавальненне той факт, што плённае развіццё літаратуры і мастацтва адбываецца ва ўсіх нашых рэспубліках, на дзесятках моў народаў СССР, у яркай разнастайнасці нацыянальных форм»,— у поўнай меры адносяцца і да нашай беларускай літаратуры. Мы маем права ганарыцца яе поспехамі. Працавалі з уздымам пісьменнікі ўсіх пакаленняў. Паказвалі прыклад працаздольнасці, высокага майстэрства, грамадзянскай актыўнасці старэйшыя нашы таварышы. З такім жа ўздымам працавала сярэдняе пакаленне — самае шматлікае і найбольш творча актыўнае. Шмат цікавых твораў далі нашы маладзейшыя таварышы. Аб гэтым сведчыць рост нашага саюза: за пяцігодку мы прынялі ў члены Саюза пісьменнікаў 60 чалавек.

Далей І. Шамякін гаварыў аб папаўненні беларускай літаратурнай Лeнініяны, аб паспяховым развіцці тэмы патрыятызму нашага народа ў гады вайны, а таксама тэм калгаснай вёскі і інтэлігенцыі, спыніўся на тым, што яшчэ не зроблена, на тых пытаннях і праблемах, якія яшчэ чакаюць свайго асвятлення на старонках твораў.

У заключэнне прамоўца сказаў:

— XXIV з'езд КПСС заклікае нас, мастакоў, быць на пярэднім краі будаўніцтва — на важным участку ідэалагічнай барацьбы. Ад імя ўсіх беларускіх пісьменнікаў я з гэтай трыбуны абвяшчаю: мы заўсёды з табой, партыя! Мы заўсёды будзем верныя ленінскім ідэям! Усе свае здольнасці, веды і свой талент мы аддамо вялікай справе пабудовы грамадства, імя якому — камунізм!

На трыбуне — электрамантажнік Мінскага аўтамабільнага завода, ударнік камуністычнай працы В. Каралёнак. Ён горача вітае пісьменнікаў ад імя рабочых сталіцы, у тым ліку ад імя шматтысячнага калектыву аўтазаводцаў:

— Сувязь аўтазаводцаў з мастацтвам, з літаратурай трывалая і традыцыйная. Яна яшчэ больш умацавалася за апошнія гады. На заводзе адбылося нямала творчых сустрэч з работнікамі мастацтва, пасяджэнняў клуба аматараў паэзіі, фестываляў з удзелам беларускіх пісьменнікаў. Нашы рабочыя і служачыя, канструктары і тэхнолагі добра ведаюць і любяць творы Я. Купалы і Я. Коласа, К. Крапівы і П. Броўкі, А. Куляшова і І. Мележа, Ул. Карпава і І. Шамякіна. Мы з вялікай цікавасцю сочым за творчасцю беларускіх пісьменнікаў, таленавітыя творы якіх знаходзяць прызнанне сярод рабочага класа рэспублікі.

Карыстаючыся выпадкам, гаворыць прамоўца, я хацеў бы выказаць і некаторыя пажаданні нашым таварышам-пісьменнікам. Няхай у вашых творах знаходзіць адлюстраванне наша цудоўная рэчаіснасць, барацьба людзей працы за ажыццяўленне велічных планаў роднай Камуністычнай партыі. Новых вам творчых поспехаў, дарагія таварышы, на вашым нялёгкім шляху!

А затым слова было дадзена паэзіі — верш «Мая Савецкая ўлада» чытае народны паэт рэспублікі П. Броўка, а М. Лужанін — верш «Нас не раджалі камуністамі».

— Паважаныя таварышы, дарагія сябры! Сёння тут няма гасцей — усе мы гаспадары, і сабраліся, каб пагаварыць аб нашых агульных справах. Я сказаў агульных, бо развіццё літаратуры цікавіць нас, працаўнікоў вёскі, у такой жа меры, як і саміх паэтаў і пісьменнікаў. У сваю чаргу, літаратары прымаюць самы актыўны ўдзел у стваральнай працы савецкага народа. Так што мы — калегі ў вялікай справе пабудовы камунізма, — звяртаючыся да пісьменнікаў, гаворыць галоўны аграном калгаса імя Гастэлы Мінскага раёна, Герой Сацыялістычнай Працы Л. Пунтус.

Наша сустрэча, працягвае ён, праходзіць у дні работы XXIV з'езда КПСС. Усе мы імкнуліся адзначыць гэтую гістарычную падзею новымі поспехамі. Зараз я пазнаёмлю вас з рапартам, які наш калгас накіраваў у Маскву, у адрас з'езда: «Пяцігадовы план па вытворчасці і продажы дзяржаве сельскагаспадарчай прадукцыі выканан датэрмінова. У юбілейным 1970 годзе атрымана па 33,8 цэнтнера збожжа з гектара, па 244 цэнтнеры бульбы. На кожную фуражную карову надоена па 4 000 літраў малака. Вытворчасць малака на 100 гектараў сельгасугоддзяў склала 1193 цэнтнеры і мяса — 140 цэнтнераў. Спаборнічаючы за дастойную сустрэчу XXIV з'езда КПСС, калектыў калгаса датэрмінова выканаў абавязацельствы па продажы дзяржаве прадуктаў жывёлагадоўлі. План продажу мяса выкананы на 165 працэнтаў, малака — на 107 працэнтаў». Так папрацавалі мы. Вядома, здабыткі літаратуры не пакажаш лічбамі і працэнтамі. Ды, зрэшты, гэта нікому і не патрэбна. Каштоўнасць вашай працы не ў колькасці, а ў якасці. Хаця, шчыра кажучы, нам хацелася б, каб вы нас радавалі і колькасцю, і якасцю. І тады чытач, які бачыць у вас верных памочнікаў партыі, скажа вам шчырае дзякуй. Так, як сёння кажа Івану Шамякіну, Івану Мележу, Петрусю Броўку, Максіму Танку, Аркадзю Куляшову, Васілю Быкаву і іншым вашым таварышам па пяры.

Л. Пунтус паднёс пісьменнікам падарунак — хрустальную вазу важкіх жытнёвых каласоў. Уручаючы гэты сімвалічны дарунак, ён гаворыць:

— Вы прыносіце нам сваімі кнігамі вялікую радасць і задавальненне, выклікаеце высокі ўзлёт думкі і пачуцця. Мы ж вам дорым сваю любоў і вялікую, шчырую ўдзячнасць. Прыміце гэтыя каласы — яны знак нашай любві і ўдзячнасці. Прыміце, як дар роднай зямлі за ваш дар паэтычны.

Заключны вечар Дзён літаратуры стаў яркім святам роднай літаратуры, святам вялікай і плённай дружбы пісьменнікаў і чытачоў. Прачулыя словы ўдзячнасці ў адрас літаратараў гучалі на вечары з вуснаў дырэктара рэспубліканскай школы-інтэрната № 3, заслужанай настаўніцы БССР М. Масальскай, выдатніка баявой і палітычнай падрыхтоўкі, гвардыі лейтэнанта Ю. Спіцына, студэнткі Беларускага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна Г. Буй. А ў адказ у залу ляцелі вершы. Іх чыталі Е. Лось, Б. Спрынчан, М. Аўрамчык, А. Астрэйка, Я. Семяжон, А. Бачыла, А. Русак. З вялікім уздымам свой выдатны верш «Камуністы» прачытаў народны паэт Беларусі А. Куляшоў.

Дружнымі воплескамі сустрэлі прысутныя паяўленне на трыбуне народнага пісьменніка рэспублікі К. Крапівы. Прачытаўшы з вялікім поспехам байкі «Плывец-тэарэтык», «Балада пра Яўтуха» і «Асёл Ісуса Хрыста», ён гаворыць, звяртаючыся да ўдзельнікаў вечара:

— Дазвольце ад імя ўсіх пісьменнікаў рэспублікі выказаць вам шчырую падзяку за гэтую сустрэчу, за добрыя пажаданні, за гэты дарагі падарунак калгаснікаў, які напамінае нам аб тым, чый мы хлеб ядзім, і аб тым, каб на нашай літаратурнай ніве каласы былі такія ж важкія і ўмалотныя. Вашы пажаданні супадаюць з добрымі намерамі саміх пісьменнікаў, бо справы і задачы ў нас, урэшце, адны, агульныя. Дазвольце запэўніць вас, што беларускія пісьменнікі будуць і надалей верна служыць народу, партыі, Радзіме.

Выступленнем К. Крапівы закончылася ўрачыстая частка вечара. Потым ён працягваўся ў фае, дзе быў наладжаны продаж кніг беларускіх пісьменнікаў. Тут жадаючыя маглі атрымаць аўтограф сваіх любімых аўтараў. Тут, у фае, працягваліся таварыскія гутаркі і кантакты пісьменнікаў і чытачоў.

Закончыўся вечар вялікім канцэртам удзельнікаў мастацкай самадзейнасці нашай сталіцы.

# ЛІСТКІ З БІЯГРАФІІ ПЕСНЯРА

**У музеі Чавускай школы-інтэрната, як самыя дарагія экспанаты, захоўваюцца некалькі пісьмаў народнага песняра Якуба Коласа. Калісьці ён дасылаў іх выхаванцам Чавускага дзіцячага дома (цяпер школа-інтэрнат).**

**Завязалася гэтая перапіска вось як. Выхаванцы дзіцячага дома зрабілі бюст пісьменніка і даслалі яго яму. Здаецца, напісалі і ліст. А неўзабаве атрымалі адказ:**

**«Дарагія мае сябры, слаўныя выхаванцы Чавускага дзіцячага дома!**

**Перш за ўсё пасылаю Вам сваю самую шчырую, сардэчную падзяку за тое, што вы звярнуліся да мяне з такімі прыязнымі словамі, як дзеці да свайго бацькі. Таксама парадавала мяне і тое, што, выхоўваючыся ў дзіцячым доме, вы адчуваеце мацярынскі прыют і ласкавае дыханне сваёй Радзімы, як вельмі вы трапна сказалі ў сваім пісьме.**

**Я толькі ад усяго сэрца пажадаю вам стаць сапраўднымі будаўнікамі новага жыцця, у якое ўступаеце вы. А для гэтага трэба шмат працаваць і вучыцца, далёка і глыбока пашыраць кругазор сваіх ведаў. Не сумняваюся ў тым, што вы будзеце новымі савецкімі людзьмі бальшавіцкай складкі.**

**Вельмі і вельмі дзякую вам, дарагія сябры, за ваш дасканалы падарунак, за бюст. Ён стаіць на маім пісьмовым стале, як найлепшая ўкраса яго.**

**І рад быў бы пабыць сярод вас на вашым вечары, пабачыць вас і пагутарыць з вамі, ды стан майго здароўя не пазваляе мне прыехаць да вас, мілыя, слаўныя рабяты. Абнімаю вас. Жадаю ўсяго-ўсяго вам самага найлепшага, вам і ўсяму вашаму калектыву.**

**Якуб Колас.**

**28 жніўня 1951 года».**

**Вось з тае пары паміж пісьменнікам і выхаванцамі дзіцячага дома ўсталявалася цесная перапіска. Дзеці пісалі народнаму паэту аб вучобе, аб справах, аб задумах. Якуб Колас віншаваў рабят, раіў вучыцца, даваў бацькоўскія пажаданні.**

**У сувязі з дзесяцігоддзем дзіцячага дома Якуб Колас пісаў:**

**«Дарагія мае сябры!**

**Слаўныя справы робіце вы ў сваім доме. Паболей саджайце дрэў, расціце гародніны і кветак, гадуйце жывёлы і рыбы. Любоў да нашай прыроды гэта адно з праяўленняў любві да Радзімы. Вось і хочацца пажадаць вам новых буйных поспехаў у вашым навучанні, у вашай працы на карысць нашай савецкай Радзімы.**

**Прыміце адначасова і прывітанне з вашым святам, з адзначэннем дзесяцігоддзя дзіцячага дома.**

**Прыехаць не здолею, а сэрцам буду з вамі. Бывайце здаровы, жадаю ўсяго найлепшага.**

**Якуб Колас».**

**І апошні ліст пісьменніка. Ён цёплы, сардэчны, кранае за сэрца: «Радасна мне было прачытаць аб тым, як многа і добра вы працуеце. Па прысланых фатаграфіях я пазнаёміўся з узорамі вашых работ, з пасекай, сенажаццю і з піянерскай лінейкай. Шкада толькі, што фатаграфіі маленькія і дрэнна відаць вашы твары.**

**Ваша пісьмо сведчыць, што вы маеце ўсе магчымасці ўзброіцца належнымі ведамі і набыць карысны гаспадарчы вопыт. Хачу параіць вам як мага жывей і паўней выкарыстоўваць гэтыя магчымасці, каб выйсці ў жыццё добра падрыхтаванымі.**

**Савецкая сістэма выхавання дае вам багаты прастор для развіцця здольнасцей, для выбару прафесіі на сталыя годы. Вы адчуваеце, як любоўна клапоціцца наша партыя і Савецкая дзяржава аб маладым пакаленні людзей, якія будуць жыць у камуністычным грамадстве. Вы павінны быць дастойнымі яго членамі і як мага лепш рыхтавацца да гэтага цяпер: добра вучыцца, весці грамадскую работу, сумесна выконваць усе свае гаспадарчыя абавязкі.**

**Блізка наша ўсенароднае свята, вялікі Кастрычнік. Віншую вас ўсіх і кожнага паасобку, жадаю сустрэць свята радасна, з добрымі поспехамі.**

**Ваш Якуб Колас».**

**Лісткі з біяграфіі песняра беларускага многа гавораць дзіцячым сэрцам!**

**М. СЕКУШЭНКА.**

# VI З'ЕЗД ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ — 26 КРАСАВІКА

**9 красавіка адбылося чарговае пасяджэнне прэзідыума праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. Прэзідыум абмеркаваў пытанне аб падрыхтоўцы да чарговага з'езда пісьменнікаў рэспублікі. З інфармацыяй па гэтым пытанні выступіў другі сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Іван Шамякін. Вырашана склікаць VI з'езд Саюза савецкіх пісьменнікаў Беларусі ў панядзелак, 26 красавіка гэтага года.**

На пасяджэнні прэзідыума праўлення СП БССР у члены Саюза пісьменнікаў рэспублікі былі прыняты крытык Варлен Бечык, паэт Юрка Голуб, крытык Мікалай Грынчык, паэт Казімір Камейша, крытык Мікола Луфераў, драматург Мікалай Матукоўскі, паэтэса Ніна Мацяш, празаік Уладзімір Мяжэвіч, паэт Павел Пруднікаў, крытык Аляксей Пяткевіч, перакладчык Анатоль Шаўня і паэтэса Жэня Янішчыц.

# ПРОЗА, ГОД МІНУЛЫ

*СУМЕСНАЕ ПАСЯДЖЭННЕ СЕКЦЫІ ПРОЗЫ І КРЫТЫКІ СП БССР*

Леташні год быў не бедны на прозу. Надрукаваны раманы І. Пташнікава і І. Чыгрынава, дванаццаць аповесцей, 88 «поўнаметражных» апавяданняў сарака аўтараў, не лічачы замалёвак, мініяцюр, эцюдаў і г. д.

Здабыткі прозы мінулага года былі падсумаваны на сумесным пасяджэнні секцый прозы і крытыкі Саюза пісьменнікаў БССР, якое адбылося 7 красавіка. З дакладам выступіў кандыдат філалагічных навук С. Андраюк.

Разгляд прозы леташняга года ён пачаў з аналізу аповесці В. Быкава «Сотнікаў». У параўнанні з ранейшымі творамі, зазначыў дакладчык, новая аповесць пісьменніка вылучаецца большай псіхалагічнай і філасофскай глыбінёй, кампазіцыйнай зладжанасцю, сюжэтнай напружанасцю, добрым адчуваннем стыхіі жывой народнай мовы.

Цікавы і значны твор мінулагодняй прозы — раман «Мсціжы» І. Пташнікава. Багаты жыццёвы матэрыял рамана па-мастацку арганізаваны, ідэйна мэтанакіраваны, каларытныя і запамінальныя асноўныя вобразы твора. Разам з тым дакладчык звярнуў увагу прысутных на тое, што аўтар часам апускаецца да натуралізму, што ў канцы твора ў агульнай глыбокай драматычнай плыні адчуваюцца пэўныя перарывы, некалькі плыткаватыя мясціны.

— Важна сказаць у мастацтве па-свойму. Не менш важна сказаць сваё, — гаворыць С. Андраюк. — Менавіта творы такога характару ў першую чаргу вызначаюць сённяшні стан літаратуры. Думаецца, падобнымі творамі і з'яўляюцца аповесць «Сотнікаў» і раман «Мсціжы». Сюды ж можна далучыць апавяданні «Гуртавое» Я. Брыля, «Вока тайфуна» Ул. Караткевіча, «Дом на беразе Эльбы» Б. Сачанкі, «У лясным закутку» Л. Калодзежнага, «Асеннія халады» А. Жука, «Вузлы» Л. Арабей, «Каб ціха было» М. Капыловіча. Выклікаюць цікавасць і першыя апавяданні «Новая хата» і «Апошні дзень» А. Варановіча, надрукаваныя ў «Літаратуры і мастацтве».

Паспяхова паспрабавалі свае сілы ў новым для сябе жанры І. Чыгрынаў і А. Кудравец. Адзначаючы станоўчыя бакі рамана І. Чыгрынава «Плач перапёлкі» — імкненне пісьменніка паказаць у мастацкай тканіне твора, як гора краіны, народа на першым часе вайны праламляецца праз гора асобных людзей, дакладчык бачыць істотны недахоп твора ў яго расцягнутасці, нескампанаванасці, часам адсутнасці мастацкага адбору, перагружанасці жыццёвым матэрыялам.

Аповесць А. Кудраўца «Зноў у Будневе» пабудавана па прынцыпе лірычных твораў, дзе ўсё трымаецца на пэўнай думцы-настроі. Але, гаварыў дакладчык, мастацкі ўзровень аповесці крыху ніжэйшы за апавяданні А. Кудраўца. Адчуваецца пэўная расплывістасць матэрыялу, слабая мастацкая канцэнтрацыя і знітаванасць.

— У пісьменніка А. Савіцкага, — зазначае С. Андраюк, — даўняя зацікаўленасць жыццём горада, лёсам тых, хто будуе дамы, стварае машыны, плавіць сталь. Яго апошні твор — дакументальная аповесць «Сталявары», прысвечаная жыццю аднаго з тых, кім сёння ганарыцца наш рабочы клас — жыццю знатнага сталявара Барашкіна. У асобных момантах пісьменніку ўдалося стварыць праўдзівыя карціны побыту, працы, жывы чалавечы характар. У цэлым жа вобразу галоўнага героя яшчэ не хапае мастацкай глыбіні і запамінальнасці.

Да 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна з'явілася шэраг твораў нашых празаікаў. Гэта — аповесць І. Шамякіна «Лёс майго земляка», апавяданні В. Хомчанкі «Сустрэча з землякамі», Р. Сабаленкі «Знаходка на гарышчы», «Амерыканцава хата», А. Ус «Як закрасуе жыта», «Дзяўчына ў белым», «Крысмас», П. Ткачова «Штрыхі да партрэта».

Ленінская тэма для П. Ткачова не новая. Але ў гэтым апавяданні ён знайшоў нейкі свежы, новы падыход. Твор вылучаецца шчырасцю і непасрэднасцю аўтарскага апавядання, трапнымі, запамінальнымі падрабязнасцямі ў абмалёўцы вобраза Ільіча.

Пэўную цікавасць, на думку дакладчыка, выклікае аповесць І. Шамякіна «Лёс майго земляка». Пісьменнік імкнецца захаваць жыццёвую непасрэднасць падзей, развіццё характараў. Гэта яму ўдаецца зрабіць, асабліва ў першай палавіне твора. Добра перададзены драматызм тагачаснага жыцця, складанасць класавай барацьбы, заблытанасць, супярэчлівасць чалавечага лёсу.

С. Андраюк спыняецца далей на аповесцях А. Васілевіч «Пачакай, затрымайся», І. Сяркова «Мы—хлопцы жывучыя», А. Крыгі «Паўночны фарватэр».

Манера апавядання Алены Васілевіч — вельмі шчырая, непасрэдная, простая і даверлівая. Але твор, на думку С. Андраюка, выклікае некаторую незадаволенасць. У ім заўважаецца пэўнае аслабленне напружанасці сюжэта, некаторае спрашчэнне ўсёй складанасці тагачаснага жыцця.

«Мы — хлопцы жывучыя» І. Сяркова — працяг яго аповесці «Мы з Санькам у тыле ворага». Твор дзіцячы, але з задавальненнем чытаецца і дарослымі. У аўтара ёсць добрае адчуванне дзіцячай псіхалогіі, уменне будаваць займальны сюжэт.

Гаворачы пра першы буйны твор маладога празаіка А. Крыгі «Паўночны фарватэр», дакладчык адзначае, што аўтар мае багатыя жыццёвыя назіранні, умее дынамічна развіваць дзеянне. Але яму трэба быць больш дакладным і пераканаўчым у абгрунтаванні паводзін, учынкаў, думак сваіх персанажаў.

Далей дакладчык гаварыў аб творах маладых аўтараў: аповесцях К. Пішчыкавай «Мера шчасця і болю», В. Гроднікава «Папараць цвіце на досвітку», Я. Радкевіча «Буяла лета». Агульны іх недахоп ён бачыць у недастаткова глыбокай распрацоўцы характараў, у няўменні паглыбіцца ў рэальнае жыццё, у слабым адчуванні жывой народнай мовы.

— У аснове аповесці Р. Сабаленкі «Трэці не лішні», — гаворыць С. Андраюк, — жыццё творчых работнікаў, каханне. Але тая рэальная аснова, якая, мабыць, была ў сапраўднасці, патанае ў агульнавядомых сюжэтных сітуацыях і сентэнцыях. У аповесці слаба адчуваецца праўда нават адзінкавага факту.

Хвароба адзінкавасці, выпадковасці, працягвае С. Андраюк, нягледзячы часам на знешнюю значнасць фактаў, падзей, сітуацый, што ляжаць у аснове многіх твораў, з'яўляецца, бадай, самай небяспечнай і пачынае набываць у нейкім сэнсе эпідэмічны характар. Чытаеш, напрыклад, апавяданні «Радасць» М. Ракітнага, «Ракі» В. Хомчанкі, «Хвалі Дуная» Н. Кедалавай, «Ішла вясна» Ул. Кузьмянкова, «Паездка ў Яромічы» М. Парахневіча, «Аліна» А. Пінчука, «Залаты пярсцёнак» М. Ваданосава, «Сакратарыха» І. Сіняўскага, «Незабыўнае» А. Рыбака, «Памяць» В. Рудавай (колькасць твораў і аўтараў можна падвоіць) і не адчуваеш уласнага ведання жыццёвых фактаў і падзей, асабістай унутранай далучанасці да таго, пра што расказваецца, не адчуваеш сур'ёзнага роздуму і пошуку.

— З высокай трыбуны XXIV з'езда КПСС ішла зацікаўленая гаворка пра нашу літаратуру, — гаварыў на пасяджэнні П. Дзюбайла. — Літаратура наша ў многім адстае ад патрабаванняў жыцця, нашага руху наперад. Гэта крытыка датычыцца і беларускай літаратуры.

На думку прамоўцы, яна нясмела пранікае ў сферу гарадскога жыцця, слаба адлюстроўвае жыццё рабочага класа. Не лепшыя справы і з традыцыйным для беларускай літаратуры паказам жыцця вёскі.

Многія літаратары бяруцца за ўспаміны, творы свае прысвячаюць дзяцінству, юнацтву. Часам гэта жыва і цікава напісана, але міжволі задумваешся, наколькі гэта важна, ці не форма гэта адысці ад сучасных надзённых грамадскіх тэм.

— Мы абмяркоўваем прозу ленінскага юбілейнага года, — гаворыць М. Кругавых. — На жаль, у дакладзе я не пачуў ні слова пра часопіс «Неман», які надрукаваў летась нямала празаічных твораў. Усё гэта варта ўвагі і даследавання.

М. Барсток і Дз. Бугаёў свае выступленні прысвяцілі аналізу раманаў І. Пташнікава і І. Чыгрынава.

— Сённяшняя наша гаворка, — сказаў І. Мележ, — дае падставу для роздуму. Падняты цікавыя праблемы, выказаны слушныя думкі. Творы пра дзяцінства — розныя, як і само дзяцінства. Гэтыя творы хвалююць, бо выходзяць з глыбінь сэрца мастака. Разам з тым я падтрымліваю П. Дзюбайлу ў тым, што мы мала яшчэ даследуем жыццё, рэдка вырываемся на яго прасторы, мала бываем пад яго вятрамі. Важна жыць жыццём народа, а пасля — пісаць пра яго.

●

У той жа дзень адбыліся справаздачна-выбарчыя сходы секцый прозы і крытыкі. Са справаздачамі аб рабоце секцый выступілі Я. Скрыган і Дз. Бугаёў.

У новы склад бюро секцыі прозы абраны: Я. Скрыган (старшыня), Т. Хадкевіч (намеснік старшыні), Л. Арабей, А. Васілевіч, А. Кудравец, І. Новікаў, П. Місько.

У новы склад бюро секцыі крытыкі ўвайшлі: Дз. Бугаёў (старшыня), А. Гардзіцкі (сакратар), П. Дзюбайла, В. Каваленка, А. Мальдзіс, Р. Шкраба, Ул. Юрэвіч, А. Яскевіч.

## Паэтычная ПАВЕРКА



Мікола КУПРЭЕЎ

### ДНЯПРОЎСКІЯ МРОІ

...Без мяне, адзін, натужна, аслабела
атаву продак мой пажоўклую скасіў...
Плывуць удвух яны—кіёк і барада у белі—
У лодцы на мой бераг.

«Папрасіць
У вас запалку, чалавеча, можна ці няможна?
А то я крэсіва згубіў і не знайшоў—падслеп...»
І працягвае далонь—трасецца жылкай кожнай
Далонь, што некалі нясла мне хлеб!

Хачу крыкнуць: «Дзеду! Я ўнук твой, дзеду!»
Ды застылі словы ў горле камяком.
І рукой дрыжачай з фільтрам цыгарэту
працягваю...

А ён стаіць з кійком
сухім, крывым, патрэсканым і тоўстым...
«Дзякуй, чалавеча. Зблізку ці здалёк?
Поездам? Аўтобусам?
Ці хваляю дняпроўскай?—
Смяецца ў бараду:—Ці д'ябал прывалок?..»

І ён пайшоў к Дняпру—сівы к сівому,
паплыў—сівы цераз сівое— у свой дом...
І крычу я берагу крутому тому,
каняю крычу над колішнім гняздом...

●

Мілая бярозка, не бядуй:
мы яшчэ з табой устрапянемся.
Ты толькі заўтра на зары
у плацце найбялейшае адзенься.

Белую сарочку я і сам
на сябе надзену, прычашуся,
і пойдзем мы з табою каля рэк
нашай добрай, роднай Беларусі.

Мілая бярозка, не бядуй:
мы з табой яшчэ пачуем,
як прыходзіць вечар на палі,
і ў траве над Начай заначуем.

А раніцай ты веццем узмахнеш
весела, шчасліва, як ніколі.
І будзем мы абняўшыся стаяць,
слухаць, як расце пад намі поле.

●

Вядзі, мой капітан!
Кіруй, мой капітан!
Толькі я прашу цябе істотаю сваёю ўсёю:
Як настальгіяй захварэю,
спусці мяне ў адкрыты акіян
у шлюпцы
і скажы мне, як папасці ў Гібралтар,—
а там я ўжо і сам знайду,
дзе тое Сярэдземнае, дзе Чорнае, дзе Днепр,—
а там я ўжо і сам зайду Дняпром у Прыпяць,
а з Прыпяці—у Лань,
а з Лані—ў Начу,
а там—у вёсачку Панач,
адкуль уцёк калісьці я ў далёкі шлях,
згубіўшы пацалунак першы ў тых палях...

# «ПРОСТА РАБОЧАЯ РАЗМОВА»

*ПАСЯДЖЭННЕ ПРЭЗІДЫУМА ПРАЎЛЕННЯ БТА Ў МАГІЛЁВЕ*

— МЭТА НАШАЙ сённяшняй сустрэчы — не падвядзенне вынікаў нейкага пэўнага этапа ў жыцці вашага тэатра. Гэта проста рабочая размова, і хацелася б, каб у час яе як мага паўней выявіліся дадатныя і адмоўныя бакі дзейнасці калектыву, праблемы, якія стаяць перад ім. Словам, хацелася б, каб размова наша прынесла найбольшую карысць...

Так пачаў тэатразнаўца А. Саннікаў выступленне на выязным пасяджэнні прэзідыума праўлення Беларускага тэатральнага аб'яднання, якое днямі праходзіла ў Магілёве. Госці з Мінска прагледзелі пяць спектакляў абласнога драматычнага тэатра, пазнаёміліся з творчым і грамадскім жыццём калектыву, і размова сапраўды атрымалася.



Ідзе пасяджэнне выязнога прэзідыума праўлення БТА ў Магілёве. Злева направа — Г. Герштэйн, А. Раеўскі, Ул. Стэльмах, А. Саннікаў, Т. Арлова, Б. Луцэнка, Ул. Караткевіч.

Як аб сур'ёзнай рабоце тэатра гаварылі ўдзельнікі выязнога прэзідыума аб спектаклі «Нора» па п'есе Г. Ібсена ў пастаноўцы рэжысёра Ул. Караткевіча.

— Гэты спектакль працягвае лепшыя традыцыі Магілёўскага тэатра, які, дарэчы, часцей за ўсё дасягаў сваіх найбольшых поспехаў у жанры псіхалагічнай драмы,—сказала рэдактар па драматургіі Міністэрства культуры БССР Г. Герштэйн.

У цэлым пасляхова спраўляецца з роляй Норы артыстка Н. Караткевіч, адзначалі прамоўцы. Яна шчырая, абаяльная, хоць часам ёй яшчэ не хапае сапраўднай псіхалагічнай глыбіні. Гэта асабліва адчуваецца ў кульмінацыйнай сцэне, дзе Нора пазнае сапраўдную цану Хельмеру. Магчыма, тут сказваецца недастатковы сцэнічны вопыт Н. Караткевіч, артысткі, безумоўна, здольнай.

Недастаткова ярка раскрывае сутнасць Хельмера—халоднага бяздушнага эгаіста — артыст М. Радзіёнаў. У выніку канфлікт паміж ім і Норай не мае той вастрыні, якой мы мелі права чакаць ад спектакля па творы славутага драматурга. Да таго ж розніца ва ўзросце артыстаў, як справядліва заўважыла тэатразнаўца Т. Арлова, крыху змяшчае акцэнты, і ўзнікае тэма, якой не меў на ўвазе Ібсен: «Старый муж, грозный муж»...

Спрэчкі выклікаў другі спектакль Ул. Караткевіча—феерычная камедыя Ул. Маякоўскага «Клоп», прэм'ера якой адбылася гэтымі днямі. Большасці прамоўцаў спрэчным здаўся мантаж рэжысёра. Ул. Караткевіч разбурыў пабудову п'есы Маякоўскага, але ўзамен не прапанаваў пабудовы дастаткова дакладнай, лагічнай, аргументаванай, сказала Г. Герштэйн.

— Цяжка згадзіцца з рэжысёрам, які перанёс сцэну вяселля ў другі акт, зазначыў А. Саннікаў. Такім чынам, другі акт мае дзве кульмінацыі, а першы здаецца збедненым. Сцэна вяселля (дарэчы, занадта рэзкая ў каляровым вырашэнні) павінна быць больш дакладна пабудавана па нарастанні. Яўна не ўдалася сцэна самагубства Зоі Бярозкінай (артыстка І. Хацяноўская)—меладраме не можа быць месца ў творы Маякоўскага. Гэты пралік, як і некаторыя іншыя,—ад таго, што рэжысёр недастаткова дакладна рэалізуе сваю ж творчую задуму: паставіць «Клапа» як востра публіцыстычную камедыю-плакат.

Сцэны мяшчанскага побыту, гаворыць А. Саннікаў, вырашаны хутчэй у духу Ільфа і Пятрова, чым у духу Маякоўскага. Таму і Алег Баян у выкананні артыста А. Рудакова залішне нагадвае Астапа Бендэра. Іншай думкі па гэтым пытанні прытрымліваецца Т. Арлова, якая лічыць такое вырашэнне зусім заканамерным, слушна заўважаючы, што і ў Маякоўскага, і ў Ільфа і Пятрова гутарка ідзе аб адным і тым жа часе і сатыра іх накіравана ў адзін адрас. Іншая справа, што ў спектаклі занадта згушчаны так званы «адэскі каларыт». Гэтая заўвага асабліва датычыць вобраза Разаліі Паўлаўны ў выкананні Ю. Гальперынай, хаця, безумоўна, артыстка вядзе сваю ролю прафесійна ўпэўнена і тэмпераментна.

Пры ўсёй спрэчнасці асобных сцэн і вобразаў, адзначалі прамоўцы, у спектаклі адчуваецца творчы пошук рэжысёра, які ў многім прынёс свой добры плён. Удача спектакля—вобраз Прысыпкіна, створаны артыстам Ю. Труханавым. Хацелася б толькі параіць артысту больш па-акцёрску «злосна» весці сваю ролю.

Глыбіня сцэнічнага вобраза залежыць не толькі ад ступені таленавітасці артыста, але і ад яго дакладнай грамадзянскай пазіцыі, сказаў рэжысёр тэатра імя Янкі Купалы Б. Луцэнка. У Магілёўскім тэатры ёсць бясспрэчна здольныя людзі. Але ў некаторых акцёрскіх работах не адчуваецца чалавечай індывідуальнасці выканаўцаў, іх асабістых адносін да таго, што хочуць сказаць у спектаклі аўтар і рэжысёр.

Працуючы над роляй, акцёр павінен мець дакладны прыцэл, працягвае Б. Луцэнка. А Алег Баян—без адраса, Хельмер—без адраса. Гэта людзі наогул... У першым акце «Амністыі» здавалася, што і Салавейчык у выкананні артыста Ул. Гурчанкава не мае адраса. Але якім ён стаў страшным у пачатку другога акта (сцэна ў кабінеце дырэктара), калі перастаў вонкава маляваць вобраз, а раскрыў знутры яго сутнасць. Вось тут адчувалася, што акцёр па-сапраўднаму разумее грамадскую небяспечнасць людзей тыпу Салавейчыка, і яго адносіны да героя перадаліся гледачам. У гэтым і заключаецца сіла ўздзеяння сцэнічнага вобраза.

Больш падрабязна на камедыі М. Матукоўскага ў пастаноўцы магіляўчан спыніўся А. Саннікаў. Спектакль вельмі дакладна вырашаны рэжысёрам А. Раеўскім па тэме, адзначыў прамоўца. Ён накіраваны супраць хамства і нахабства, супраць дэмагогіі і беспрынцыповасці. Невыпадкова яго галоўнай гераіняй адразу ж робіцца Ізабэла Дрозд у выкананні артысткі І. Хацяноўскай. Гэты вобраз—адна з творчых удач спектакля. Ён паўнакроўны, пераканаўчы, у ім выразна адчуваецца грамадзянская пазіцыя актрысы.

Па жанры ж спектакль вырашаны недастаткова дакладна. У гэтым сэнсе ён эклектычны: то шарж і плакат, то бытавая камедыя, балаган змяняецца лірычнымі сцэнамі.

Да творчых удач тэатра, безумоўна, адносяцца і вобразы, створаныя А. Рудаковым—артыстам шырокага дыяпазону, праўдзівым і ў глыбока трагічным вобразе доктара Ранка ў «Норы», і ў ролі лёгкадумнага дасціпнага авантурыста ў спектаклі «Канец Хітрава рынка». Звяртаюць на сябе ўвагу акцёрскія работы В. Гусева (Гораў, «Канец Хітрава рынка»), Н. Караткевіч (Маша, «Ленінградскі праспект»), С. Яворскага (дырэктар заасада, «Клоп»), З. Малчанавай (Ягадка, «Амністыя»).

Хоць гутарка зараз ідзе толькі аб тых спектаклях, якія былі прагледжаны ў час выязнога пасяджэння БТА, усё ж няцяжка заўважыць, што асноўная нагрузка ў тэатры кладзецца на старэйшае і сярэдняе пакаленне акцёраў. І справа тут не толькі і не столькі ў ступені таленавітасці таго ці іншага пакалення. Расказваючы аб рабоце з маладымі акцёрамі ў сувязі з аб'яўленым усесаюзным конкурсам-аглядам тэатральнай моладзі, галоўны рэжысёр тэатра Ул. Караткевіч з трывогай гаварыў аб тым, што ў калектыве ўсяго сем артыстаў ва ўзросце да 30 гадоў. А тэатр без моладзі —гэта тэатр без будучыні. Папаўненне трупы маладымі артыстамі—адно з галоўных пытанняў, якое востра стаіць сёння перад кіраўніцтвам тэатра.

Удзельнікі выязнога прэзідыума адзначылі, што ў параўнанні з мінулым тэатральным сезонам сёлета адчуваецца больш высокая культура спектакляў, палепшыўся рэпертуар. Хоць Т. Арлова і выказала думку, што «Нору» тэатру ставіць яшчэ рана, такое меркаванне здаецца неабгрунтаваным: Магілёўскі тэатр існуе даўно, мае кваліфікаваных рэжысёраў і здольных акцёраў, а ў добрай драматургіі перш за ўсё і закладзены магчымасці іх росту. Зараз Ул. Караткевіч рыхтуе да пастаноўкі «Антыгону» Ж. Ануя, А. Раеўскі—«Гарачае сэрца» А. Астроўскага. Шкада толькі, што з-пад увагі тэатра амаль зусім выпалі п'есы беларускіх драматургаў. Адна «Амністыя» на ўвесь рэпертуар—ці не замала?

Сур'ёзныя заўвагі былі зроблены ў адрас мастацкага афармлення спектакляў. Меерхольд гаварыў, што спектакль пачынаецца з афішы, нагадаў Б. Луцэнка. У Магілёве мы з задавальненнем убачылі добра аформленыя афішы, парадавала нас і з густам зробленая праграмка прэм'еры «Клапа». А вось афармленне спектакляў («Нора», «Ленінградскі праспект», выязны варыянт «Амністыі») пакідае жадаць лепшага. Хацелася б, каб тэатр з усёй сур'ёзнасцю паставіўся і да гэтай праблемы.

За лічбамі і фактамі, якія прывялі ў сваіх выступленнях дырэктар тэатра В. Шмудзянкоў і старшыня Магілёўскага аддзялення БТА рэжысёр А. Раеўскі, стаіць нялёгкая напружаная праца, якую прарабіў калектыў за мінулы сезон: дзесяткі выязных спектакляў, 8—10 творчых сустрэч у месяц з рабочымі, служачымі, студэнтамі, пастаянная дапамога культасветвучылішчу, Дому народнай творчасці, самадзейным калектывам, а галоўнае—сем прэм'ер за сезон! Пры такіх тэрмінах здачы спектакляў цяжка патрабаваць, каб кожная роля была зроблена ад пачатку да канца на самым высокім узроўні. Цяжка, але імкнуцца да гэтага трэба, бо мастацтва не прызнае сярэдзіны, не цярпіць пасрэднасці.

Будзем спадзявацца, што атмасфера зацікаўленасці, ініцыятывы, пошуку, якая пануе сёння ў тэатры, дасць свой добры, творчы плён.

**Святлана КЛІМКОВІЧ.**



Магіляўчане абмяркоўваюць выступленні гасцей. Злева направа—артыстка І. Хацяноўская, заслужаныя артысты БССР С. Яворскі, А. Рудакоў, А. Яфрэменка, Ю. Гальперына, артыст Ю. Труханаў.

Фота А. ГОЛЬША.

*НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ*

## «ТРЫБУНАЛ» А. МАКАЁНКА НА КУПАЛАЎСКАЙ СЦЭНЕ

У Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы адбылася прэм'ера спектакля па п'есе Андрэя Макаёнка «Трыбунал». Рэжысёр — В. Раеўскі, мастак — заслужаны дзеяч мастацтваў БССР А. Грыгар'янц, музычнае афармленне С. Картэса, танцы ў пастаноўцы народнага артыста БССР С. Дрэчына.

Знаёмім чытачоў з героямі новай трагікамедыі.



Цярэшка Калабок — артыст Г. Аўсянікаў.



Паліна — народная артыстка БССР Г. Макарава.



Надзя — артыстка Н. Піскарова.

# ПЕРААДОЛЬВАЮЧЫ ІЛЮСТРАЦЫЙНАСЦЬ...

## «ВОРАГІ» НА СЦЭНЕ РУСКАГА ТЭАТРА ІМЯ М. ГОРКАГА

КАЛІ РАЗГЛЯДАЦЬ класічны твор як ілюстрацыю да школьнай хрэстаматыі або падручніка гісторыі, то, напэўна, так і трэба цяпер ставіць «Ворагаў», як гэта зрабіў рэжысёр А. Даброцін. Перш за ўсё паказаць бытавы антураж падзей, даць адзнакі часу — і на сцэне Рускага тэатра БССР, на ўсю вышыню партала, даецца партрэт апошняга расійскага цара ў рамцы з моцных белых калон з аркай, якая надламалася пасярэдзіне (чуваць ззаду задаволены голас здагадлівага гледача: «Імперыя рушыцца!»). А ў фінале спектакля, калі адзін з арыштаваных рабочых Ляўшын гаворыць гнеўную цiраду: «Нас не выкінеш, не! Хопіць, выкідвалі...» — можна літаральна паказаць, як за яго спіной паўстаюць дзесяткі новых барацьбітоў—пралетарыяў, і як яны, узяўшыся за рукі, маналітнай сцяной з рэвалюцыйнай песняй насоўваюцца на «гаспадароў» і ў прамым сенсе слова выціскаюць іх са сцэны.

Праўда, уважлівы старшакласнік можа заўважыць, што нічога падобнага на гэтыя карціны няма ў тэксце п'есы М. Горкага: ні партрэта цара, ні песні, ні эфектных мізансцэн аўтар не прадугледжваў.

Што ж сёння нас можа ўсхваляваць у «Ворагах», нас, людзей, якія ведаюць намнога больш за герояў п'есы? Мы загадзя ведаем, што спробы Скробатавых і Бардзіных прыпыніць выступленні рабочых асуджаны на правал, усё роўна пралетарыят пераможа і саштурхне са сцэны гісторыі сваіх гаспадароў.

**Рэвалюцыйны рабочы клас — заўсёды дзеючая асоба ў п'есах Горкага. Ён вызначае ход гісторыі, абвастрае ўсе канфлікты ў стане ворагаў. Гэта пад яго націскам рушыцца знутры дом паліцмайстра Каламійцава ў «Апошніх», развальваюцца сем'і Бессяменавых, Булычовых, Дасцігаевых. Але нідзе, апроч «Ворагаў», драматург не выводзіць так адкрыта на сцэну гэту грозную сілу: часцей яна вызначае, карэкціруе думкі і ўчынкі людзей і пакуль яшчэ знаходзіцца за сцэнай, за сценамі дома тых, хто баіцца яе або адкрыта змагаецца з ёй.**

**Горкі пісаў п'есу ў той гістарычны момант, калі буржуазія не здала яшчэ сваіх пазіцый, калі яе супраціўленне каштавала рэвалюцыйнаму пралетарыяту тысячаў ахвяраў. І ваяўнічы мастак засярodзіў увагу на «гаспадарах жыцця», каб паказаць, даказаць нежыццяздольнасць пануючага класа, яго маральнае і фізічнае выраджэнне. Таму ў «Ворагах» галоўныя дзеючыя асобы — прадстаўнікі пануючага класа. Пра іх гэта п'еса. А вобразы рабочых, якія змагаюцца, — гэта толькі контурны накід той сілы, якая змяце ўрэшце «гаспадароў». Гэтага канца Горкі не пакажа ў п'есе: ён напісаў «Ворагаў» у 1906 годзе, калі да перамогі пралетарыяту вёў яшчэ цяжкі шлях барацьбы ў цэлае дзесяцігоддзе.**

Любую п'есу Горкага нельга разглядаць у адрыве не толькі ад часу яе напісання, палітычнай сітуацыі ў Расіі ў той момант, а і ў адрыве ад іншых яго п'ес. Усе іх збліжае не толькі час дзвюх рэвалюцый, а і агульная філасофская праблематыка. Гэта, па сутнасці, няспынны дыялог пра дабро і зло, пра сэнс жыцця, пра месца чалавека ў сацыяльнай барацьбе.

У «Ворагах» — тое ж самае.

— Я ж хачу дабра... толькі дабра!.. Няўжо неажыццявіма мірная разумная плынь жыцця? — гаворыць у п'есе Захар Бардзін, адзін з уладальнікаў фабрыкі.

А яго кампаньён Міхаіл Скробатаў, прыхільнік «рашучых мер», заявіць супрацьлеглае:

— Справядлівасць, як вы яе разумееце, згубная для справы.

Спрэчку пра дабро і зло вядуць і рабочыя. Стары Ляўшын спрабуе нават суцяшаць слабых духам:

— Мілая, — усіх мы забіваем! Якіх кулямі, якіх словамі... Навошта ваяваць, навошта ж цясніць адзін аднаго? — будзе ён пяшчотна вучыць Надзю, юную пляменніцу Бардзіных.

Сінцоў, рабочы-рэвалюцыянер, на прызнанне Надзі Бардзінай, што «раптам усё неяк зблыталася, і я ўжо не разумею... дзе добрыя людзі, дзе — дрэнныя», скажа:

— Разблытаецца. Вы толькі не бойцеся думаць... Думайце бясстрашна, да канца!..

**Не раскрыць у «Ворагах» напружаных духоўных шуканняў людзей, — значыць, не раскрыць галоўнага, значыць, прайсці міма інтэлектуальнага паядынку, які ёсць у гэтай драме. Здавалася б, чыста службовая роля ў эканомкі Аграфены — прыбіраць посуд, запаўняць паўзы. Але Горкаму гэтага мала. Ён укладзе ў яе вусны адну са сваіх думак: «Крыху праўды і панам ведаць трэба». Таму з яго твораў нельга выкінуць ні аднаго вобраза, ні адной рэплікі, гэта ўсё роўна, што згубіць ноту ў мелодыі. У горкаўскіх п'есах амаль няма экспазіцыі, падрыхтоўкі да дзеяння, абмалёўкі абставін. Як быццам драматургу шкада губляць на гэта час, свой і гледачоў.**

А ў спектаклі — ціхі, сонечны ранак. Кіпіць самавар на стале. Праз некалькі хвілін з дзвярэй панскага асабняка выйдзе гаспадыня дома Паліна Бардзіна (Е. Весніна), уся ў белым, мілая, ветлівая жанчына, крыху какетлівым жэстам падасць яна руку для пацалунка кампаньёну мужа і запросіць яго піць чай. Потым з'явіцца і сам гаспадар Захар Бардзін (Ю. Сідараў), па-панску элегантны і памяркоўны. На яго твары будзе таксама ззяць задаволеная ўсмешка: ён толькі што дагульваў з адным са Скробатавых учарашнюю партыю ў шахматы і, відаць, выйграў яе.

Так і цягнецца гэты сонечны мірны ранак, пакуль не прагучаць словы Міхаіла Скробатава — «Закрыць завод!». Яны зробяць уражанне стрэлу над вухам. Усе ўскокваюць. Усе пачынаюць нешта даказваць. Словы, якія гучалі да гэтага ў вуснах дзеючых асоб не абавязкова, набываюць сілу, напор. Толькі цяпер і ўзнікае сутычка думак, ідэй, характараў. Відаць, таму, што навісла пагроза над уласнасцю: закрыць завод — гэта пагражае не толькі фінансавым крахам, бо абураныя рабочыя настроены вельмі рашуча.

Так можна прачытаць рэжысёрскую задуму першай карціны спектакля. Між іншым, у п'есе Паліна Бардзіна гаворыць з засмучэннем: «Сёння ў нас усё неяк не клеіцца. Ніхто не снедае, усе раздражнёныя... Нібы не выспаліся... О божа... цяжка жыць!» За гэтым раздражненнем — не проста дрэнна праведзеная ноч, а ўнутраная сумятня людзей, жаданне зразумець, што ж адбываецца навокал, знайсці сябе, знайсці ісціну. Але гэтых «ісцін», аказваецца, многа, і ў кожнага з персанажаў — свая. І размова ператвараецца ў паядынак, кожная рэпліка — як выпад шпагай.

**Рэжысёр А. Даброцін і выканаўцы вельмі ж доўга расстаўляюць фігуры і «ўводзяць» нас у атмасферу дома Бардзіных, не пачынаючы той філасофскай спрэчкі, якая ўзнікае ў драме адразу ж. А калі пазбавіць гэтага напалу горкаўскую п'есу, тады што ж іграць? Толькі класавае размеркаванне сіл? Трактаваць назву п'есы ў адным сэнсе: ворагі — гэта рабочыя і іх гаспадары, эксплуататары і эксплуатуемыя? Тады на сцэне і атрымліваецца ілюстрацыя, не больш. У спектаклі Рускага тэатра БССР такі службовы падыход да п'есы адчуваецца. Асабліва выразна — у пралогу і фінале, а таксама ў трактоўцы асобных вобразаў.**

У Горкага Захар Бардзін чалавек шчыры і добры. Але логіка класавай барацьбы такая, што і добрага «гаспадара» прымушае рабіць зло. Гэта адна з пастаянных горкаўскіх тэм: ці можа чалавек заставацца добрым, калі ён удзельнічае ў «зле»?

**Вялікі псіхолаг Горкі на прыкладзе Захара Бардзіна паказвае, як размываецца дабрата чалавека, які ўдзельнічае ў зле, як разбураецца, перараджаецца асоба. У тэатры, відаць, спрашчаюць гэты працэс. Захар Бардзін у выкананні Ю. Сідарава хутчэй абыякавы да ўсіх чалавек, чым добры. Проста ён прытрымліваецца пэўных ліберальных поглядаў, якія лічыць прыстойнымі і нават моднымі, не заўважаючы, што акалічнасці прымушаюць яго мяняць іх на больш «жорсткія». Для такога Захара Бардзіна гісторыя, якая разыгралася ў сувязі са стачкай на заводзе, не вельмі трагічная. Яму, канечне, непрыемна, што справа дайшла да жандараў, да судзілішча ў яго доме, але пакутаваць ад гэтага такі Бардзін не будзе і душэўнай раўнавагі не страціць. Мо на наступны ўжо дзень пасля ад'езду жандараў з арыштаванымі рабочымі Захар Бардзін з такім жа апетытам будзе піць ранішні чай, захапляючыся ясным ранкам, сонечнымі блікамі на траве, бо жыве ён, па сутнасці, толькі для сябе, і ўсе гэтыя ідэйныя сутычкі ўсур'ёз яго не турбуюць... А ў п'есе Бардзін — персанаж больш складаны, яго «лібералізм» больш злачынны...**

Калі ў Захары Бардзіне, пры ўсёй спрэчнасці яго трактоўкі Ю. Сідаравым, па-артыстычнаму старанна прапісаны чалавек, жывы, верагодны, то ў адносінах да братоў Скробатавых тэатр паставіўся больш прамалінейна — ён не даў ім плоці, пакінуў іх толькі функцыяй у канфлікце. Прызначэнне Скробатавых у спектаклі — быць ворагамі рабочых, і такімі яны і праходзяць перад намі, адназначнымі, нерасшыфраванымі, не выклікаючы ні цікавасці, ні жадання ўслухацца ў іх словы. Крыўдна, што і рэжысёр і цікавыя артысты Ю. Ступакоў і Б. Казінец абмінулі «псіхалагічныя загадкі» гэтых пачварных натур. Нешта падобнае атрымалася на сцэне і з вобразам Клеапатры Скробатавай (арт. А. Шах-Парон).

На першых паказах «Ворагаў» частка публікі была схільна аддаваць перавагу ў ацэнцы ігры выканаўцам роляў «гаспадароў жыцця». Але яркімі яны выглядалі таму, што ў драматургіі п'есы ім аддадзена больш месца і па-мастацку абгрунтаваных характарыстык. Пазней спектакль набыў трохі іншае гучанне. Мы пераканаліся ў тым, што па-акцёрску цікава распрацоўваюцца і персанажы прадстаўнікоў рабочых. Вызваляецца ад знарок падкрэсленай шматзначнасці І. Ражба ў ролі Ляўшына, саграває ўнутраным тэмпераментам свайго Сінцова Г. Нікалаеў.

Між двума полюсамі — сіламі свету, які гіне, і свету, які нараджаецца, Горкі, як правіла, ставіць людзей, якім хочацца адштурхнуцца ад аднаго берагу і даплыць да другога. Звычайна гэта і самыя юныя героі яго п'ес, часцей — гераіні (традыцыя рускай літаратуры — у жанчыне бачыць бунтарную сілу): у «Ягоры Булычове» — гэта Шурка, у «Мяшчанах» — Поля, у «Ворагах» — Надзя. Само імя яе гучыць сімвалічна. Яшчэ свабодная, «не звязаная меднай капейкай», як гаворыць пра яе Ляўшын, дзяўчына непасрэдна адчувае несправядлівасць, амаральнасць жыцця блізкіх ёй людзей. І Надзея ў артысткі Н. Чамадуравай з недзіцячай сілай і апантанасцю шукае ісціну, бо хоча для сябе сумленнага, разумнага жыцця. Гэта, бадай, самая чыстая нота ў спектаклі. Толькі хочацца параіць маладой актрысе не падсцёбваць свой і без таго гарачы тэмперамент, а, наадварот, недзе прыхаваць яго ў душы, каб гледачы бачылі за эмоцыямі і напружаную работу думкі. Шкадуеш, што А. Даброцін не ва ўсім паверыў актрысе, логіцы створанага ёю характару і прымусіў Надзею ў апошняй карціне спектакля дэманстрацыйна далучыцца да натоўпу рабочых, свядомых барацьбітоў рэвалюцыі. І гэта чужое п'есе Горкага.

**Больш складаны ў п'есе вобраз Таццяны Бардзінай, разумнай, чулай жанчыны, у чые вусны Горкі ўкладвае самыя рэзкія, выкрывальныя словы. Яна не знаходзіць, аднак, у сабе сілы да канца адарвацца ад свайго класа. У гэтым яе драма. На жаль, у спектаклі актрыса Л. Былінская не дае нам магчымасці глыбока зазірнуць у душу Таццяны, адчуць гэту драму. Яна застаецца для нас толькі прыгожай, вострай на язык, знешне абаяльнай жанчынай. А духоўнае жыццё яе нават агрубляецца. Так, у сцэне «спакушэння» пракурора Мікалая Скробатава (Таццяна хоча выратаваць Сінцова) яна паводзіць сябе жанчынай, якая не аднойчы ўжо карысталася вульгарнымі сродкамі. Ад лютай сутычкі двух ворагаў нічога не застаецца...**

**Ёсць у п'есе «Ворагі» яшчэ адзін вобраз, можна сказаць, традыцыйны для твораў Горкага, вобраз чалавека, які ўсё на свеце разумее.**

**— Людзі дзеляцца на тры групы: адны — усё жыццё працуюць, другія накопліваюць грошы, а трэція — не хочуць працаваць для хлеба — гэта ж бессэнсоўна! — і не могуць запасіць грошы — гэта і недарэчна і няёмка неяк. Дык вось я — з трэцяй групы, — гаворыць Якаў Бардзін. І выканаўца ролі Р. Янкоўскі адразу выкрывае спустошаную душу героя. Неахайны, даўно няголены, з цяжкай хадой, з блытанай, нервовай гаворкай алкаголіка, гэты чалавек носіць у сабе такі ціхі, застаялы адчай і пагарду да самога сябе, што ніякія новыя факты «мярзотнасцяў жыцця» ўжо не ўзрушаюць яго. Такі Якаў Бардзін павінен бы пусціць сабе кулю ў лоб у першым акце. А ў п'есе ён гэта робіць у апошняй дзеі, пасля таго, як на яго вачах у доме яго «добрага» брата разыгрываецца гнюснае судзілішча над рабочымі. У нас засталося такое ўражанне, што і тут тэатр памыліўся: замест эвалюцыі героя даецца ілюстрацыя.**

Дарэмна рэжысёр не паверыў аўтару і ў апошнім акце. Замест сціплага пакоя ў доме Бардзіных — велічныя пакоі, з ляпнымі столямі, раскошнай люстрай, цяжкімі аксамітавымі парцьерамі, прыгожымі парэнчамі лесвіц, якія ўбачыш хіба ў царскім палацы. Перанясенне сцэны суда над рабочымі ў гэтыя казённа-велічныя абставіны мела, канечне, пэўную мэту. Відаць, рэжысёр А. Даброцін і мастак А. Грыгар'янц хацелі як бы рассунуць сцены дома Бардзіных і абагульнена паказаць, што судзіць рабочых не толькі кучка жандараў, а ўся манархічная ўлада, супраць якой і паўстаюць рабочыя, сцяной і выцясняюць гэту ўладу са сцэны гісторыі. У горкаўскай п'есе, дзе аўтарскі роздум аб жыцці засяроджаны ў чалавеку, яго псіхалогіі, яго ідэйных шуканнях, гэта выглядае штучным. І ўспамінаецца папярэджанне самога Горкага аб небяспечнай тэндэнцыі «скачкоў за межы рэчаіснасці, паказанай у п'есе».

Спектакль «Ворагі» яшчэ раз пацвердзіў даўно вядомую ісціну: трэба больш давяраць драматургу, не «ўпрыгожваць» і не «ўзбагачаць» суровую праўду жыцця дадаткамі рэжысуры і спрошчанай трактоўкай роляў.

**М. ДЗІНІЧ.**


Галя — заслужаная артыстка БССР Л. Давідовіч.


Зіна — артыстка С. Некіпелава.


Валодзька — артыст В. Баркоўскі.


Сырадоеў — артыст В. Белахвосцік.


Камендант — заслужаны артыст БССР П. Дубашынскі.

Фота Ул. КРУКА.

Міхаіл ШУМАЎ

# РАДАЎНІЦА

АПАВЯДАННЕ



— ШТО ГЭТА вы ўсе нібы згаварыліся! — Міхаіл Мікітавіч са злосцю шпурнуў аловак на стол. — Былі тры святочныя дні, маглі б з'ездзіць, калі так прыспічыла!

— Мне трэба цяпер,— упарта паўтарыў малады зменны інжынер, стоячы на парозе кабінета. —Мне належыць два адгулы, я хачу іх атрымаць.

— Абавязкова ў панядзелак і аўторак?

— Вось іменна.

— Загадаеце закрыць завод?—з ядавітай ветлівасцю нахіліў галаву Міхаіл Мікітавіч.—Альбо што-небудзь іншае. Перад вамі ўжо чалавек пяцьдзесят прыходзіла з такой жа просьбай!

— Адпусцілі?

— Не, не адпусціў!

— Ну і дарэмна,—паціснуў плячыма інжынер, пры тым так спакойна, быццам гаворыць не з начальнікам, а з сябрукамі па інтэрнаце.— Усё роўна ж не прыйдуць: радаўніца!

— Ага, дык вось яно што!—прамовіў Міхаіл Мікітавіч і з наўмыснай цікаўнасцю пачаў разглядаць камсамольскі значок на клятчастай каўбойцы інжынера.—Вы, вядома, веруючы?

— Я даўно не быў дома.

— Вы—веруючы?

— Я два гады не быў дома. Трэба пабываць на могілках, маміну магілку папpавіць—радаўніца ж!.. Дык я пайшоў, бывайце!

Вось так, пайшоў і ўсё. Радаўніца ў яго. У, ма-ла-ка-с-сос! А галоўнае—кісла ты яму зробіш, як казалі калісьці перад вайной!

Міхаіл Мікітавіч усхапіўся з-за стала і захадзіў па кабінеце.

Выгнаць—не выганіш, замяніць няма кім, самому ж горай будзе, а церпіш такое—пачынаюць на галаву садзіцца... Наколькі ж моцна сядзіць у людзях гэтае глупства! То вялікдзень—усе заводскія двары засмечаны расфарбаваным шкарлупіннем, а цяпер яшчэ радаўніца. І хоць бы веруючыя святкавалі, дык ліха б з імі—іх адзінкі, надвор'я яны, як кажуць, не робяць. А вось гэты—ён жа ні ў бога, ні ў д'ябла не верыць, а туды ж! Радаўніца, бачыце, у яго! На могілкі яму трэба! Маміну магілку, бачыце, паправіць трэба!

І так захацелася накруціць вушы гэтаму юнаму нахабніку, што Міхаіл Мікітавіч нават застагнаў, у тры зацяжкі выкурыў папяросу, прыпаліў новую і доўга, супакойваючыся, бяздумна глядзеў у акно.

Размерана вухкала ў суседнім корпусе непарушна-спакойнае сэрца завода—велізарны тысячатонны прэс, і па зямлі пасля кожнага ўдару прабягала лёгкая сутарга.

Міхаіл Мікітавіч раптам зразумеў, што́ яго больш за ўсё абурала і злавала—гэта невыносна сентыментальнае спалучэнне «маміна магілка». Трасца б яго ўзяла, гэтага смаркача, а заадно і яго маму!

Засяродзіцца на рабоце ён так і не змог. Накрычаў за нізавошта на сакратарку, раззлаваўся за гэта сам на сябе і ўцёк у кузню: там, у грукаце і дыме, ён звычайна супакойваўся і прыходзіў да раўнавагі.

У закутку ля вялікага молата ляжала старая жалезная скрынка; уладкаваўшыся на ёй, Міхаіл Мікітавіч жмурыўся на блакітныя зарніцы электразваркі, ціхае ззянне распаленых балванак і з асалодай удыхаў саладкаваты пах акаліны.

...Маміну магілку яму, бачыце, паправіць спатрэбілася. А Міхаілу Мікітавічу не трэба? Аднак жа вось... аднак жа вось ужо дваццаць гадоў ён не быў у Буйнічах. Там ужо, мусіць, і магілкі ніякай не засталося, парасло ўсё быльнягом, аплыло. А можа і... Крыж быў жалезны, з дзюймовых труб, павінен стаяць...

Цікава, ці ёсць цяпер у Буйнічах хоць адна знаёмая душа? У пяцідзесятым, калі ён быў там апошні раз, не было амаль нікога. Сябры-аднагодкі амаль усе не вярнуліся з вайны, а хто і ацалеў, даўно ў горад перабраўся. Старыя перамерлі, а для маладзейшых імя Міхаіл Мікітавіч Цэдрык—пусты гук. Ды і сама вёска на новым месцы: пасля пажару ў сорак чацвёртым там увогуле доўга людзей не было—прыжыліся ў суседніх вёсках. Вярнуліся нямногія. Новую вёску пабудавалі бліжэй да лесу—на ўсялякі выпадак. А, можа, старыя галавешкі і каміны наводзілі на людзей жах? На старым месцы толькі могілкі—высокі пагорак над Друццю, бярозы ды сосны...

А чаму, зрэшты, і не з'ездзіць у Буйнічы? Не ў аўторак, вядома, а, скажам, заўтра, у суботу? Але, але—наведаць маміну магілку. Вось іменна: маміну магілку. І прывесці яе да ладу. Можна будзе нават кветак з сабой прыхапіць. А то там ліха яго ведае што робіцца! І яму адразу стала лёгка і спакойна.

Раніцой ён разам з сынком крочыў па старым, у бярозавых прысадах гасцінцы—спецыяльна паехаў рэйсавым аўтобусам, каб прайсціся пешкі. Калісьці ён ведаў тут кожную калдобіну на дарозе, кожную засечку на бярозе.

Дзень выдаўся такі блакітны, радасны, якія бываюць толькі ў пачатку мая, калі гараджаніна, што вырваўся на волю, літаральна ашаламляе буйная кіпень вясны і ён забываецца на ўсе свае застарэлыя балячкі і клопаты—проста ідзе, дыхае і радуецца ад таго, што жыве. І Міхаіл Мікітавіч ішоў, радаваўся і раптам здзівіўся мудрасці продкаў, якія выбралі для памінання памерлых менавіта гэты час: смуткаваць, праліваць слёзы ў такі дзень проста немагчыма, і чалавек успамінае тых, што пакінулі гэты свет, з пачуццём светлым і радасна-ўдзячным.

Сынок Міхаіла Мікітавіча Аркашка, падпяразаны шырокім афіцэрскім рэменем, на якім вісела сапраўдная сапёрная лапатка ў брызентавым чахле, спачатку па сталаму крочыў побач з бацькам. Але варта яму было глытнуць вяснонага палявога духу—і ён, гарэзліва падбрыкваючы, памчаўся наперад, у атаку, на штурм невядомых бастыёнаў.

Як хораша быць генералам! Асабліва, калі ў поўным тваім распараджэнні такая вясёлая і грозная армія. А ну— у разведку! І чырвоны матылёк-пасыльны імкліва ляціць з загадам і праз мінуту зноў прысаджваецца табе на плячо. Сігналіць з вышыні верталётчык-жаўрук—усё ў парадку, генерал! З рэактыўным гулам знікаюць у далечыні паласатыя гвардзейцы-чмялі, і невідочны аўтаматчык-дзяцел стракоча па ворагу доўгімі чэргамі. Наперад! На прыступ!

Дарога выбегла на круты пагорак і вільнула ў малады ельнік.

Міхаіл Мікітавіч спыніўся над абрывам. Унізе звівалася-пабліскавала з-за кустоўя вясёлая Друць, яна толькі-толькі ўвабралася ў берагі. За ёй, за лугамі, плылі-дрыжалі ў марыве далёкія вёскі: Любонічы, Смятанічы, Княжыцы, Паддуб'е... Само гучанне гэтых напаўзабытых назваў было такім смачным, што Міхаіл Мікітавіч нават засмяяўся ад задавальнення.

...На могілках было людна, усюды ўвіхаліся, штосьці абладжвалі, фарбавалі.

Магілу бацькоў сваіх ён пазнаў не адразу—відаць, таму, што на ёй відочна ўгадваліся сляды чыёйсьці працы. Значыць, ёсць яшчэ нехта, акрамя яго, каму неабыякавае гэтае месца. Гэтае адкрыццё так усхвалявала яго, што ён, пакінуўшы сына сцерагчы рукзак, замітусіўся па могілках, да ўсіх прыглядаўся, пакуль, урэшце, рашыўся спытацца (няёмка было прызнавацца, што за дваццаць гадоў упершыню выбраўся).

— Гэта стары Басевіч тут корпаўся,—разагнула спіну немаладая ўжо жанчына, што працавала непадалёк.—Радня яго тут ляжыць, а хто—баюся сказаць, не ведаю. Ён цяпер на тым канцы, каля брацкай магілы, дзе партызаны пахаваны. Паклікаць?

— Дзякую, не трэба,—ледзь выціснуў з сябе Міхаіл Мікітавіч.—Я сам.

Сказаў—і тут жа пашкадаваў. Меней за ўсё ён хацеў бачыць зараз Басевіча. Можа, пайсці адсюль, пакуль не позна? Ды не, позна. Старому абавязкова перададуць, што быў. А не зайшоў—значыць, спалохаўся. Міхаілу Мікітавічу няма чаго палохацца. І лепш за ўсё адразу, каб не трывожыць сябе дарэмна.

— Скажыце, Ганна Іванаўна таксама жыва?—спытаў ён у той самай жанчыны.

— Цётка Ганна? А што ёй зробіцца, жыве, дзякаваць богу! А вы, часам, ім не радня?

— Не, не радня!—Міхаіл Мікітавіч пальцамі размякчыў папяросу, памаўчаў і дадаў:—Суседзямі былі да вайны, ну і... дружылі!

— Дык вы, значыць, наш, буйніцкі?—узрадавалася жанчына.—А чый жа будзеце?

— Цэдрык я. Чулі пра такіх?

Жанчына са шкадаваннем развяла рукамі. Міхаіл Мікітавіч усміхнуўся ёй і рашуча накіраваўся туды, дзе бялеў у зарасніку бэзу стандартны абеліск з зоркай.

Басевічаў ён згледзеў яшчэ здалёк і міжволі прыцішыў крок.

Старыя канчалі прыбіраць партызанскую магілу. Стоячы за кустом здзічэлага бэзу, Міхаіл Мікітавіч доўга глядзеў, як маленькая і сухенькая бабулька высаджвае цыбуліны гладыёлусаў у чорную нізкую куртыну.

«Напэўна, і чарназём самі сюды насілі,—падумаў Міхаіл Мікітавіч.—Але хто ў іх тут, у гэтай магіле? У іх жа, акрамя Вадзькі, нікога не было».

І раптам зразумеў: «Яны ж нічога не ведаюць пра Вадзьку! Для іх Вадзька—тут!»

У аўторак прыйдуць яны сюды, да гэтага абеліска, моўчкі вып'юць па чарцы горкай, сядуць поплеч на лаўцы і будуць моўчкі думаць свае старэчыя думкі.

Хто ведае, аб чым могуць думаць адзінокія старыя ў светлы і самотна-ўрачысты дзень радаўніцы? Пэўна, аб тым, што «час ідзе, і ўжо скора збірацца» і што іх магілы дагледзець не будзе каму, ніхто не справіць па іх памінак, ні саракавін, ніхто не адведае і на радаўніцу. Міне які год-два, і асядуць, размыюцца пясчаныя грудкі, пахіляцца драўляныя крыжы на іх, а дажджы і сонца зліжуць іх імёны з кавалачкаў фанеры...

У Міхаіла Мікітавіча сціснулася сэрца і затахкала гулка і рэдка, як перад атакай, калі над акопам, дзе ты сядзіш, вішчыць, вые, фыркае смерць, а табе трэба выскачыць і плюнуць у яе кашчавую, зубастую морду, і кожная часцінка твая хоча ўцісну цца, уплюшчыцца ў акопную гліну...

Ён выйшаў з-за куста і, паволі і няўклюдна ступаючы, падышоў да агародкі.

— Дабрыдзень, дзядзька Хведар!—Ціха сказаў ён і аблізаў вусны.—Дабрыдзень, цётка Ганна!

— Мішачка!—ёкнула старая.—Мішачка!

— Ты глядзі, і праўда Мішка!—стары тройчы пацалаваў яго і саступіў жонцы.—Успомніў-такі бацькава котлішча, пацягнула, га?

— Мішачка, ды як жа гэта... А родненькі ты мой!—гаварыла бабулька, тупаючы каля мужчын і раз-пораз выціраючы хусцінкай светлыя, выплаканыя за гады вочы.

Міхаіл Мікітавіч разгубіўся: не чакаў, што Басевічы так стрэнуць яго—і ад збянтэжанасці не ведаў, што казаць і што рабіць.

Выручыў Аркашка—знайшоў-такі!

— Тата, а калі мы будзем фарбаваць?—патрабавальна спытаў ён.— Ці мы цалавацца прыехалі?

Усе засмяяліся.

Міхаіл Мікітавіч падхапіў сына на рукі.

— Пусці!—незадаволена сказаў той.—Я не маленькі, што ты мяне на ручкі ды на ручкі!

— Правільна, хлопча, так і трэба!—падтрымаў яго Басевіч.

— Тата, пайшлі! Я фарбаваць хачу! Ты ж казаў, што дазволіш!

— І праўда, пойдземце,—сказаў дзядзька Хведар.—Іванаўна, пакуль мы тут забавімся, дык ты займіся сваёй справай!

— Ці ж я сама не ведаю, першы дзень на свеце жыву! Толькі ж вы асабліва не баўцеся, глядзіце!

— Не забавімся, не забавімся,—прабурчаў дзядзька Хведар,—ты сабе ідзі!

Міхаіл Мікітавіч фарбаваў агародку і ўпотай пазіраў на дзядзьку Хведара. Той увесь быў ва ўладзе Аркашкі. Праз тры хвіліны пасля знаёмства малы называў яго дзедам, а дзед аж свяціўся ад радасці і задавальнення і аб чымсьці балакаў-буркатаў з нечаканым унукам.

...Перапэцканы з ног да галавы фарбай Аркашка, на вялікую радасць дзеда Хведара, вывудзіў у адзін прысест міску мёду з аладкамі і тут жа заснуў, ледзь галаву данёс да падушкі.

З першай хвіліны сустрэчы Міхаіл Мікітавіч ведаў, што давядзецца расказваць старым, як загінуў Вадзька. Чвэрць веку, не ведаючы, жывыя Басевічы ці не, ён рыхтаваўся да гэтай размовы—бяссоннымі начамі ў думках спрачаўся з імі, пераканаўча даказваў сваю невінаватасць і не пакутаваў ад згрызот сумлення. Ды і цяпер яно было спакойнае, сумленне капітана Цэдрыка, толькі раптам дробнай і нікчэмнай падалася жалезная логіка старанна прадуманых аргументаў, і выявілася, што яны зусім не патрэбны, таму што цяпер ён не зможа, нізавошта не зможа сказаць старым тое, што павінен быў і збіраўся сказаць. Калі-небудзь пасля...

У хату раз-пораз забягалі цікаўныя суседкі, за імі, крыху счакаўшы, заходзілі іх чалавекі—пузаты трохлітровы гляк моцнай дзедавай «табурэтаўкі» пусцеў даволі хутка. І калі, урэшце, гамонка пра навіны навукі, выгоды і невыгоды гарадскога жыцця, пра В'етнам перакінулася на мінулую вайну, Міхаіл Мікітавіч увесь сцяўся і ўнутрана пахаладзеў.

Чакаць давялося нядоўга.

— Мішачка,—папрасіла цётка Ганна,—вось хоць ты растлумач мне, што гэта такое: «прапаў без вестак»? Як гэта можа прапасці чалавек без весткі?

— Ай, цётка Ганна, ну я ж вам ужо сто разоў гаварыў!—аж падскочыў на лаўцы маладзенькі трактарыст. Ён ужо даўно парываўся сказаць што-небудзь, але жонка ціхенька клала руку на яго плячо, і ён прыкусваў язык, сядзеў, маўчаў, загараючыся пасля кожнай новай чаркі—урэшце, улучыў момант і ўзвіўся. — Уявіце сабе, цётка, такую сітуацыю. Паслалі некага ў разведку, у тыл да немцаў. Ён павінен быў у пэўны час абавязкова вярнуцца, далажыць, што бачыў. А яго няма і няма! Тэрмін даўно выйшаў, яшчэ дзень, два, тыдзень—няма чалавека і ўсё тут! Трэба паведаміць дадому. А што? Забіты? Ніхто гэтага не бачыў. У палон трапіў? Зноў жа ніхто не бачыў. Можа, загінуў на заданні, можа, і пахавалі яго людзі добрыя—зноў жа, адкуль ім ведаць, хто гэта такі? Пры разведчыках дакументаў не бывае. Правільна мыслю, дзядзька Міша?

Міхаіл Мікітавіч кіўнуў. Трактарыстава жонка паспела апусціць сваю ўладную руку на плячо свайго шчуплага мужа, ён уздыхнуў і тужліва прыняўся за парасячую рабрынку.

Цётка Ганна чакала. Міхаіл Мікітавіч доўга круціў у пальцах папяросу, пасля сунуў яе чамусьці зноў у пачак і ўрэшце рашыўся.

— Вадзька загінуў, цётка Ганна... На маіх вачах, так што тут усё абсалютна ясна.

— Я так і ведала,—усхліпнула Ганна Іванаўна.—А то прапаў без вестак...

— Чакай, баба, памаўчы!—прыкрыкнуў на яе дзядзька Хведар.—Расказвай, Міша, расказвай! Усё, як было, так і расказвай!

— Вядома, як было,— уздыхнуў Міхаіл Мікітавіч і палез у кішэню за пачкам. Дзядзька Хведар нецярпліва працягнуў яму сваю раскачагараную самакрутку.

— Трыццатага жніўня тысяча дзевяцьсот сорак чацвёртага года гэта было, раніцою. У Польшчы. Абарона там у немцаў была моцная, трое сутак мы там таўкліся і нічога не маглі зрабіць. А ранічкою трыццатага наляцелі самалёты іхнія, «Юнкерсы». Дваццаць сем штук. Развярнуліся над акопамі—і давай мясіць! Вадзік якраз у камандзіра роты быў сувязным—абодвух іх прамым пападаннем!

— Прамым?—шэптам перапытаў дзядзька Хведар.

— Сотка! Стокілаграмовая бомба, значыць. Ну вось, адбамбіліся тыя, паляцелі, працёр я вочы, зірнуў—аж там, дзе камандзірскі акоп быў, варонка метры з чатыры глыбінёй. Вось так...

Міхаіл Мікітавіч прагна дакурыў самакрутку, намацаў сваю недапітую чарку і кульнуў сабе ў рот.

— Сто кіло толу!—пакруціў галавой трактарыст.—І прамое пападанне. Ад іх і шматкоў не засталося—пыл, дым!



Мал. В. ТАРАСАВА.

— Дзякаваць богу, хоць не мучыліся,—ціха сказала яго жонка.

— Хоць не мучыліся— нібы ўзрадаваўся і дзядзька Хведар і пашукаў вачыма жонку.—Гэта правільна—хоць не мучыліся... Міша, а ты месца тое запомніў? Пазнаеш, калі давядзецца?

— Хто яго ведае, што там сталася за дваццаць пяць гадоў? Калі ўсё так і засталося, дык, вядома, пазнаю... А «без вестак» вам прыслалі таму, што не знайшлі іх, Вадзіка з камандзірам. І я не паспеў сказаць, бо мяне праз паўгадзіны і самога так шарахнула, што ўсе вантробы адбіла, Во, зірніце!

Міхаіл Мікітавіч адкінуў сівую пасму і нахіліў галаву. Амаль ад самага лоба, ад залысіны, ішоў аж да цемені шырокі рваны рубец.

— Восем месяцаў у шпіталі праваляўся, ледзь ачуняў.

Ганна Іванаўна падышла ззаду, пагладзіла па галаве, пацалавала проста ў рубец і ласкава сказала:

— Паглядзі, што ў мяне ёсць! Пазнаеш?

З вялікай фатаграфіі з-пад шкла ўсміхалася двое весёлых хлапцоў у аднолькавых футболках.

Гэта ж адразу пасля экзамена па супрамаце—на радасцях яшчэ, помніцца, выпілі бутэльку нейкай брыды і Вадзьку потым усю ноч ванітавала. А фатаграфаваліся недзе ў скверыку. Праўда, вунь і Казбек на задніку, і нейкая балюстрада быццам. Вадзька тут сімпацяга, ён на фатаграфіях заўсёды такі выходзіў. І на грудзях—«Варашылаўскі стралок» другой ступені, прадмет заўсёднай маёй зайздрасці. Страляў ён і праўда здорава. Вельмі здорава страляў Вадзька. Смяяўся ён таксама здорава—вунь, усе трыццаць два відаць...

— Давай, Іванаўна, сцялі Міхаілу,—падняўся дзядзька Хведар.—Загаварылі чалавека да паўсмерці, а заўтра рана падымацца! А, можа, перадумаў? Пагасцюеш крыху?

— Дзякую, але—работа! А дзевятай павінен быць, як штых!

— Ну, глядзі сам, табе відней.

— Ды я прыеду яшчэ! Вось вазьму водпуск і прыеду!

— Аркашку не забудзь, — строга сказаў дзядзька Хведар.— І ўвогуле, на чорта табе там усялякія лагеры-шмагеры? Лепшага лагера, чым у мяне, не знойдзеш! Абяцаеш?

— Парадак, дзядзька Хведар, абавязкова прывязу.

...Госці разышліся, а Міхаіл Мікітавіч застаўся на ганку пакурыць.

Ужо сцямнела, але не настолькі, каб не было відаць, і рэдкія зоркі пакуль толькі ледзь-ледзь праразаліся на зелянкавым небе. Шырокі двор, адгароджаны з двух бакоў двума доўгімі хлявамі, а з двух іншых — хатай і плотам з шырокімі варотамі, быў увесь у кароўіх і свінячых лепяхах, растаптаных, перамешаных з сырой вясенняй зямлёй — зусім, як тады, у той бог ведае які далёкі час. Вунь і калода такая ж, лобнае месца для курэй і качак. І карытца для іх тут жа. Се ля ві.

Міхаіл Мікітавіч успомніў гэтую любімую прымаўку старэйшага сына і засмяяўся.

У расчыненых дзвярах хлява стаяла, шырока расставіўшы ногі, белалобае цяля і сонна, няўцямна зырылася на незнаёмага чалавека. Недзе ў цемры за ім нервова ўскрыкнула курыца, сярдзіта цыкнуў на яе певень, і яна змоўкла.

Змрок згусціўся, у вакне засвяціўся агеньчык, і адразу ж у шкло ўрэзаўся хрушч, пашамацеў крыху на зямлі, спрабуючы падняцца, і замоўк—накаут!

Міхаіл Мікітавіч у думках палічыў хрушчу да дзевяці, засмяяўся і пайшоў спаць.

...Ледзь мігцела лампадка ў куце, завешаным вышыванымі ручнікамі, але святло яе не разганяла змроку, нават аблічча боскае нельга было разгледзець — кволенькі светлячок у цемры велізарнага, бязмежнага пакоя.

Кружылася галава, у горле засеў, нібы костка, агідны камяк. Міхаіл Мікітавіч намацаў на табурэтцы драўляную кварту з квасам і доўга, пакуль хапіла дыху, ліў у сябе кіславатую халодную вадкасць.

Там жа, на табурэтцы, вобмацкам знайшоў папяросы, чыркнуў запальнічкай — адразу акрэслілася сцяна насупраць, чорны квадрат фатаграфіі на ёй, цемра адскочыла і напружана затаілася ўнізе, пад сцяной. Міхаіл Мікітавіч амаль фізічна адчуў яе, яму падалося нават, што ён угледзеў дрыжачы чорны хвост.

Ён грузна павярнуўся і спусціў на падлогу ногі. Фарбаваныя маснічыны прыемна халадзілі ступакі. Спаць расхацелася. Асцярожна ступаючы, ён зноў выйшаў на ганак.

Неба было ўсеяна зоркамі. Стаяла такая першародная цішыня, што нават чырканне запальнічкі здавалася гучным і прыкрым скрыгатам.

...— Прывітанне, капітан! Заходзь! Іш як цябе забінтавалі—мама родная не пазнае!

— Снайпер, падла, трапіўся, проста ў лоб уляпіў! Каб не каска — хана мне! А так толькі скуру ўспароў!

— Несвядомы ён элемент, гэты фрыц — сапсаваў такі скальп!

— Во-во... Выпіць чаго-небудзь няма ў цябе?

— Цэдрык, ці не ты гэта? Гэй, Сініца, рому капітану!

— Быломy камбату...

— Ідзі ты!

— Вось і іду... Толькі за што? Батальёна ж у мяне няма! Накрыўся мой батальён. Шаснаццаць чалавек — усё маё войска...

— У начальства быў?

— Кажу ж табе, іду!

— Адставіць, больш шклянкі не піць, пасля дап'еш!

— А-а, усё адно!.. Не, ты скажы, на які ляд даўся нам гэты пракляты хутар? Дзесятак двароў, толку ад іх ні нам, ні ім, а от жа ўчарэпіліся — пакуль усіх не перабіў, не ўзяў! І мае там усе палеглі...

— Мішка, хопіць піць! Нарвешся на Кузьміча —сапраўды, загрыміш! Сініца, што там за гвалт?

— Палонныя між сабой счапіліся, таварыш старшы лейтэнант! Сярод іх там двое з загараджальнага атрада аказаліся, ну, немцы іх і куштыляюць — адступаць не давалі, гады, расстрэльвалі! Пацеха!

— Фашысцкія заграднікі? Вунь у чым справа! А ну, Сінічка, пакажы мне гэту публіку!

...Вось так усё і было, дзядзька Хведар. Іменна так. Немцы і сапраўды крыху ўсыпалі гэтым карнікам. А яшчэ здалёк я заўважыў: сярод палонных — Вадзька! Не мог я памыліцца, адразу пазнаў. Здраднік? Сярод іх?.. Тут я яму і прыпомніў свой батальён. Пяцьдзесят дзве пахаронкі ў той дзень я падпісаў. Дзядзька Хведар, ты зразумей— пяцьдзесят дзве! Звычайна гэта ад'ютант рабіў, а тут яго і самога... І параненых сто сорак шэсць... Вось я яго і... Сваёй уладаю, без суда і следства. Можа, яно і не па законе. Можа быць. Але, чэснае слова, дзядзька Хведар, не мог я гэтага выцерпець. Не мог! І зараз бы не дараваў...

Міхаіл Мікітавіч не заўважыў, як развіднела, і ачнуўся толькі тады, калі Ганна Іванаўна забразгатала ў сенцах даёнкай.

Займалася звычайная вясковая раніца, з цурчаннем малака ў даёнкі, скрыпам веснічак, дзелавітым рохканнем свінні, што паспела вылезці з цёплага закутка, з пеўнямі і вясёлым гоманам кабет ля калодзежаў.

Міхаіл Мікітавіч падумаў, што ў гэтай інертнасці, непаваротлівасці вясковага побыту ёсць нейкі асаблівы сэнс: прыедзеш — нібы ў дзяцінства нырнеш. Але, нырнуўшы, трэба вынырнуць: ты ж не амфібія, жыць там ужо не зможаш. Асвяжыўся — і давай, брат, у сваю стыхію, у свой дарослы, прапахлы бензінам і чарнілам, перапэцканы заводскім чадам свет, да якога ты прырос жывым месцам. Свет, без якога табе ўжо не жыць.

І яшчэ ён падумаў, што няма патрэбы несці ў гэты дом прастрэленую горкую праўду.

Пераклад з рускай мовы.

# СУВЯЗЬ СТАГОДДЗЯЎ

## БУДНІ МУЗЕЯЎ ГОМЕЛЬШЧЫНЫ

ЦІШЫНЯ. Зрэдку чуваць прыглушаны шэпт. Нават экскурсавод і той гаворыць упаўголаса.

У гэтай цішыні добра пабыць сам-насам з гісторыяй, параздумваць аб жыцці продкаў, аб поспехах сучаснікаў Пасля такога спаткання з гісторыяй другімі вачыма глядзіш на ўсё, інакш успрымаеш веліч нашых здзяйсненняў. Мабыць таму з кожным годам усё больш людзей наведваюць музеі.

Летась у дзяржаўных музеях Гомельшчыны пабывала каля трохсот тысяч чалавек. За леташні год зроблена дваццаць фотадакументальных выставак, выдадзена брашура «Помнікі Гомеля», супрацоўнікі музеяў падрыхтавалі рукапісы трох выданняў, распрацавалі дзесяць навуковых тэм, правялі шмат разнастайных мерапрыемстваў: сустрэч ветэранаў партыі, працы і войнаў з моладдзю, збораў піянерскіх атрадаў, тэлевізійных віктарын, тэматычных вечароў.

У масавай рабоце мы, работнікі абласнога краязнаўчага музея, выкарыстоўваем традыцыйныя формы клубнай работы, але абавязкова імкнемся дамагчыся таго, каб вечар, праведзены музеем, застаўся ў памяці наведвальнікаў надоўга і каб яго нельга было зблытаць ні з якім іншым.

У выніку такога пошуку ў нас трывала ўсталяваўся, а гледачам палюбіўся тэматычны вечар «Мой родны край». Паводле распрацаванага графіка навуковыя супрацоўнікі выязджаюць з аўтаклубам у аддаленыя вёскі. Выязджаць даводзіцца двойчы: першы раз (за тыдзень да правядзення вечара) у клуб завозіцца і манціруецца там перасоўная фотадакументальная выстаўка «Ардэнаносная Гомельшчына ад з'езда да з'езда» або «Гераічны камсамол Беларусі». Тады ж інструктуюць загадчыка клуба і кінамеханіка, гутараць з кіраўнікамі калгаса, саўгаса, пакідаюць загадзя зробленыя рэкламныя шчыты.

Праз тыдзень наш аўтаклуб ужо чакаюць...

Пасля кароткага ўступу старшыні або парторга калгаса выступаюць навуковыя супрацоўнікі. Тэмы іх дакладаў: «Дасягненні Гомельшчыны», «Гісторыя раёна», «Гомель у мінулым, сучасным і будучым», «Гомельскі музей», «Гомельшчына ад з'езда да з'езда», «Гамяльчане — Героі Савецкага Саюза». Прамова выступаючага суправаджаецца ілюстрацыямі, якія дэманструюцца на кінаэкран праз эпідыяскоп, і паказам аб'ёмных экспанатаў. Кожная лекцыя заканчваецца праглядам кароткаметражнага хранікальна - дакументальнага фільма: «Кастрычнік у Беларусі», «Розум перамагае», «Вызваленне Беларусі», «Бітва за Гомель» і інш.

Такія вечары мы будзем арганізоўваць і далей

Абласны краязнаўчы музей абсталяваў таксама выстаўку «Гомельшчына ад з'езда да з'езда» ў вагоне, які ў саставе агітпоезда Гомельскага аддзялення Беларускай чыгункі абслугоўвае насельніцтва аддаленых станцый. Неўзабаве поезд вернецца ў Гомель, і выстаўка адправіцца ў падарожжа на цэлы год па раённых дамах культуры.

Вядома, частыя выезды людзей не павінны адбівацца на якасці іншых, не менш важных і неабходных работ: экскурсій, лекцый, дакладаў, абнаўлення экспазіцыі. Усё гэта ідзе сваёй чаргой, усё гэта накіравана на выкананне новых сацыялістычных абавязацельстваў, прынятых на сёлетні год, які будзе ўпісан у гісторыю, як год XXIV з'езда КПСС.

Шмат чаго цікавага робяць і супрацоўнікі раённых музеяў. У Рэчыцкім краязнаўчым музеі папулярны сустрэчы ля піянерскага кастра, Мазырскаму добра памагаюць ветэраны, Рагачоўскаму — і пенсіянеры, і школьнікі.

Музейшчыкі Гомельшчыны ў сваёй большасці — людзі ініцыятыўныя, нястомныя, упартыя ў дасягненні мэты.

Хто не ведае, што ў Рагачове нарадзіўся музей дзякуючы настойлівасці Сямёна Мацвеевіча Свярдлова, яго імкненню ўвекавечыць памяць герояў-землякоў! Цяпер ён — дырэктар Рагачоўскага музея народнай славы. А хто не ведае ў Рэчыцы дырэктара музея Фаіну Сцяпанаўну Калініну? Усе ведаюць, і стары і малады.

У нашым абласным музеі многія любяць сваю прафесію. Але раней за іншых падхопліваюць усё новае, цікавае Л. Шыловіч, Л. Цыбульская, Х. Каранеўская.

...Кожны дзень запаўняюць людзі залы музеяў. У цішыні гучыць голас гісторыі. А ўвечары, калі ўспыхваюць агні ў сельскіх клубах, там працягваецца размова аб цяжкім мінулым і слаўным сучасным нашага краю.

І. КАПОЦЯ,
дырэктар Гомельскага абласнога краязнаўчага музея.

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

**ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ**

Анатоль ДЗІК

## СМЕЛЫ ЭКСПЕРЫМЕНТ

Пра нас з Янкам гавораць: «Нітачка з іголачкай». Гэта таму, што працуем мы ў адным арматурным цэху электразваршчыкамі, разам ездзім на рыбалку і паляванне, а нядаўна ажаніліся і жывем у адной кватэры: у Янкі з Галяй пакой і ў мяне з Маняй — пакой, а вось кухня— агульная. І гэтая праклятая кухня чорнай хмарай навісла над нашай мужчынскай дружбай.

Маня з Галяй пасварыліся з-за нейкай дробязі і жывуць зараз, як два каты ў адным мяшку. Нашы жонкі, тлумачачы нам сваю сварку, неслі адна на адну нямаведама што. І што яны там не падзялілі, для нас, мужчын, было гэтак жа загадкава, як і паходжанне марсіянскіх каналаў для астраномаў.

А сёння дзесьці а дзесятай гадзіне вечара Галя знячэўку паслізнулася на кавуновай шкарлупінцы і, падаючы, штурханула Маню. Маня з тае прычыны выпусціла з рук талерку з супам. Талерка разляцелася на дробныя кавалачкі, пакінуўшы на падлозе духмяную лужыну варыва.

— Топчашся тут, як карова на лёдзе! — закрычала Маня на Галю. — Такую талерку праз цябе расквасіла!..

— Ах ты, пудзіла бязрукае! Я павінна твае шкарлупінкі падбіраць?! — узарвалася Галя.

І — пайшло-паехала. У паветры запахла істэрыкай і грамадзянскай вайной, але мы з Янкам мужна скончылі вячэраць і адасобіліся ў мой пакой на экстраную нараду ў рангах мужыкоў. За некалькі хвілін шчырай гаворкі мы склалі план смелага эксперыменту.

Паколькі мы з Янкам гэты тыдзень працавалі ў начную змену, то пасля нарады, дзе вырашалася пытанне аб выратаванні нашай дружбы, мы пачалі збірацца на работу. Кожны раз, калі я іду на працу, мы з Маняй цалуемся. Угаварыла яна мяне на такую працэдуру. Сёння Маня таксама прыпала да маіх вуснаў. А я ў гэты момант згроб яе ў ахапак і ўкінуў у Янкаў пакой, дзе Галя сцяліла ложак — збіралася легчы спаць. Маня і Галя аслупянела глядзелі адна на адну, а я тым часам шмыгнуў за дзверы, а Янка два разы павярнуў ключ.

— Не пакалечылі б яны там адна адну? — выказаў я сваю трывогу.

— Ну і халера іх бяры! — са злосцю кінуў Янка. Аднак я адчуваў, што і ў яго душы неспакойна.

Усю змену работа валілася ў нас з рук, і нам трызніліся страшныя сцэны. Мне здавалася, што мая Маня ў адчаі можа выкінуцца з акна (трэці ж паверх!), а Янка раптам успомніў, што ў яго на акне ляжыць брытва-каса, а на сцяне вісіць стрэльба шаснаццатага калібру, і Галя ведае, дзе схаваны патроны...

Гэта была самая доўгая і цяжкая змена ў нашым жыцці. Але і яна, нарэшце, скончылася. Мы не ішлі, а беглі дадому. Прыбегшы, мы перш-наперш прыдзірліва агледзелі акно Янкавага пакоя. У ім смяялася сонца.

— Акно не разбівалі і не адчынялі, — канстатаваў сябра вынікі нашага агляду. — Вазон стаіць на месцы.

Адным духам мы ўзляцелі на трэці паверх і апынуліся ў кватэры. Дрыжачай рукой Янка ўчарэпіўся ў ключ, два разы павярнуў яго і ціха націснуў на дзверы. Мы зазірнулі ў пакой і аслупянелі ад здзіўлення: абняўшыся, нібы дзве сястрычкі, на ложку соладка спалі Галя і Маня.



Дон-Кіхот XX стагоддзя.

Мал. М. ЧАРНЯЎСКАГА.

С. ПАПАР

## НАДПІСЫ

**НА ДЗВЯРАХ**

Калі прыйшоў пад дзверы чужаком—
не стой затоена за вушаком.
Пераступай парог, які ты ёсць,
а далей распазнаюць, што за госць.

**НА ШКЛЯНЦЫ**

У стрыманасці ёсць такі рубеж:
чым болей церпіш—меней п'еш.
Але калі дабраўся да віна,
то ўжо—да саменькага дна.

**НА ВЕСНІЧКАХ**

Паспелі яблыкі. Уваход—налева.
Змей спіць, а бог заняты.
Ева.



## ГАВОРАЦЬ ДЗЕЦІ

**САМ СЯБЕ ВЫКРЫЎ**

— Ты, Слаўка, нябось у слівы да мяне лазіў? — пытае жартам дзед.

— Ды не, дзядуля, яны кіслыя!

**ЛІЧЫЦЬ, ДЫ НЕ ТОЕ**

— Што ты, Міша, варон лічыш?

— Я не варон лічу, а вокны вунь у тым доме.

**ВІНАВАТЫ САБАЧКА**

— Ты ж, Вовачка, кніжку дагары трымаеш!

— Не, татачка, гэта сабачка лёг дагары нагамі.

**ТАКСАМА АБНОВА**

Дзеці хваляцца адзін перад адным:

— У мяне новы касцюм...

— А ў мяне новыя чаравікі...

Не сцярпеў і Вова:

— А мне тата сёння галаву пагаліў новай машынкай.

Запісаў П. ШЫБУТ.

Барыс МАНЦЭВІЧ

## ХУТЧЭЙ БЫ Ў ЛАЗНЮ

Мне жонка сказала:
«Бяды б я не ведала,
Калі б пасля лазні
ты выпіў — згаджаюся...»
З тых пор тую лазню
штодзённа наведваю,
А ў дзень выхадны
нават двойчы спраўляюся.

## З ПАДСЛУХАНАГА

*— Пытаеш, хто такі сумяшчальнік? Гэта, як табе карацей сказаць, калі чалавек адначасова на тры сукі садзіцца ці ў двух аўтамабілях адзін едзе.*

*— А, я так і думаў, што гэта цыркач.*

●

*— Ты гэта што, Пятроўна, не працуеш сёння, што па крамах бегаеш?*

*— А ў мяне бюлетэнь да пятніцы.*

Запісаў Н. КОЗЕЛ.

*— Купіце, калі ласка, гэтую энцыклапедыю. У ёй ёсць усё, што карысна і трэба ведаць.*

*— Вялікае дзякуй, але мая жонка ведае нават тое, што і ведаць не трэба.*

●

*— У нашай установе нельга дыхнуць.*

*— Так работы многа?*

*— Не. Дыхнеш, дык адразу пазнаюць, што выпіў.*

Запісаў А. МАХНАЧ.

Павел САКОВІЧ

## ДУГА І ПАДКОВА

Ганарлівая Дуга аднойчы даведалася, што Падкова ёй — далёкая сваячка.

— Ну і сваячка! — высмейвала яна Падкову. — Ды яе ж нагамі ў гразь топчуць! Не тое, што я: на цёплым месцы, на шыі сяджу! Вось дзе пашана!

Непрыкметна ішоў час. Драўляная Дуга пачала трухлець. Праўда, зношаная Падкова згубілася першай. Але фанабэрыстая Дуга не бачыла, як знайшоў яе чалавек, падняў, абцёр старанна, прынёс дахаты і прыбіў яе «на шчасце» на самым пачэсным месцы.

А ганарлівую Дугу даўно тым часам спалілі ў грубцы.

## КАЛІВА СМЕХУ З ПОЎНАГА МЕХА

*З ДАЎНЕЙШЫХ БЕЛАРУСКІХ ЖАРТАЎ*

### ПАГАСЦЯВАЎ

Наважыўся Антось кума праведаць. Выбраўся ў дарогу, калі яшчэ і трэція пеўні не спявалі: свет не блізкі — дваццаць вёрст, як гаку. Дадыбаў да кума, калі ў вокнах ва ўсю гуляла сонца.

Кум, пэўна, толькі што паснедаў, бо сядзеў за сталом і выціраў ручніком спацелы лоб. Госцю ўзрадаваўся, пасадзіў побач на лаве, падсунуў капшук з тытунём:

— Кур, кумок!

Закурыў і сам. Пацікавіўся, пыхнуўшы самакруткай:

— Ну, як вы там?

— Ды нічога.

— І мы нічога.

Памаўчалі.

Гаспадар ікнуў пасля сытага сняданку, зноў узяўся за капшук. Прапанаваў ласкава:

— Кур, кумок. Мультан, не абы якое глупства.

У Антося ад мультану і няблізкай — нашча — дарогі цямнее ў вачах. Ён кашляе, але мусіць хваліць кума. Гаспадару прыемна, што госць упадабаў самасад, і ён шчадрэе:

— Кур, кумок!

Антось не аднекваецца— барані бог пакрыўдзіць кума, і курыць зноў і зноў. Рукі трасуцца, тахкае сэрца.

— То я пайду, мабыць, — просіцца Антось.

— Пасядзі, пакурым, — угаворвае гаспадар. — Дзень з год, паспееш яшчэ.

— Нездаровіцца штосьці, — саромеецца сказаць праўду Антось. — Слабасць...

— Ну, то ідзі, кумок, калі так, — спачувае гаспадар.— Наказвай, няхай і кума прыходзіць...

— Дзякуй, — кажа Антось, знайшоўшы клямку. А, зачыніўшы дзверы, дадаў:— Кума не курыць.

### НЕ ДАГАДЗІЎ

Мужык і жонка, ідучы з суседняй вёскі, дзе гулялі на хрэсьбінах, усю дарогу сваволілі. Абое былі маладыя, жылі разам ці не другі год — самыя жарты. А тут сонца падымаецца, прыпякае. Мужык згледзеў стройную сасну на прыгорку і лёг астыць у цяньку. Жонка села побач. Глядзеў мужык угору, ды раптам засмяяўся.

— Ты чаго? — здзівілася жонка.

— Уявіў, што я гэтую сасну спілаваў, зрабіў кадушку, наварыў у ёй піва, ды сабраў на вялікадня ўсю маю радню.

— А маю?—усхапілася жонка.

— Не ставала яшчэ траціцца!

— Ах ты, боўдзіла! — загневалася жонка.—Мае, дык, значыцца, і не радня?

Усчалася, слова за слова, тузаніна.

Ішоў дарогаю ляснік, убачыў тое, ды і тут як тут:

— Што, людзі добрыя, не падзялілі?

— Ды вось, — кажа разгневаная жонка і тыцкае пальцам то ў мужа, то ў сасну, — гэты чалавек спілаваў гэта дрэва, зрабіў кадушку, наварыў у ёй піва і частуе сваю радню. Не, каб цесця з цешчаю паклікаць!

Ляснік паглядзеў на гонкую стройную сасну, на прыціхлага мужыка і раз'юшаную жонку і сказаў, смеючыся:

— Хто каго любіць, той таго чубіць. А сасна стаіць!

Запісаў у Докшыцкім раёне Г. ШУСТОЎСКІ.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.



Індэкс 63856

АТ 09679

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва —32-22-19, бухгалтэрыі—32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.